PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 3667714

# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 32 (1839) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 11 ЖНІЎНЯ 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.



РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ. РАКА НАРАЎКА.

*Фота Я. Цялушэцкага.*

************************************************************************

Выглядае на тое, што і мы, беларусы, дачакаліся свае ўнутранае „вайны на гары". Чытаючы „Ніву", даволі дакладна можам вызначыць бакі канфлікту і лінію фронту, але пакуль што не зусім ясна, у чым сутнасць справы - дзе крыніца гэтае нібыта заядлае сваркі?

Янка Жамойцін, „гледзячы збоку" („Ніва", 07.07.91), сапраўды напрацаваўся, каб нешта сказаць, але ж, на жаль, ці то перспектыва яму скасабочылася, ці то абрысы затуманіліся, і да сутнасці справы ён так і не дапісаўся.

Увесь гэты скандал пачынаецца з таго, што БГКТ апошнім часам амаль перастае існаваць як жыццяздольная арганізацыя, а галоўным віноўнікам яе распаду - паводле кіраўніцтва - з'яўляецца Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. Закіды і лік „злачынстваў", што прыпісваюцца БДА бэгэкатоўцамі, „руськімі ўкраінцамі" і „сапраўднымі хрысціянамі" - даволі вялікія.

Кіраўніцтва БГКТ мае прэтэнзію, што татальная крытыка дзейнасці гэтай арганізацыі давяла да яе маральнага банкруцтва, безупынна паўтарае пра нейкую тайную карэспандэнцыю (а то й даносы - глядзі: „Ніва", 12.05.91, „Адгалоскі"), хоць адзіны тэкст, які датычыў БГКТ (у кантэксце Цэнтра беларускай культуры), быў апублікаваны кіраўніцтвам БДА ў „Ніве" (05.05.91). Хай ужо на сумленні дзеячоў БГКТ застаецца дылема, ці тэкст гэты - данос ці спроба знайсці перспектыву для беларускага руху і выйсці з тупіку.

Зноў жа Яўген Чыквін і рэдакцыя „Тыгодніка Падляскага" пераконваюць сваіх чытачоў, што БДА - гэта партыя рэнегатаў і здраднікаў праваслаўя, яна існуе толькі дзеля таго, каб увесці унію на Беласточчыну. Магчыма, што неўзабаве прачытаем у

## КУДЫ ІСЦІ БЕЛАРУСАМ?

той газеце пра інгрэс першага уніяцкага епіскапа ў Беластоку, якім, несумненна, можа быць толькі Сакрат Яновіч. Такі ёсць, на жаль, ход думкі людзей, якія пры ўсім тым вызнаюць хрысціянскую маральнасць.

Легенда, створаная „руськімі ўкраінцамі", дасягнула ўжо таго ўзроўню, на якім існуе міфалогія пра беларускі палітычны рух ва ўяўленні некаторых палякаў. Найбольш сенсацыйную я пачуў ад войта гміны Бельск Ю. Ігнацюка падчас аднаго сімпозіума ў Супраслі. Заявіў ён менавіта, што БДА, інспіруючы стварэнне Злучнасці Гмінаў „Нарва", рыхтуецца пераняць кантроль над гаспадаркай Усходняй Беласточчыны, гэта значыць, што палітычная арганізацыя ўжо ператварылася ў мафію. Будзем спадзявацца ўсё-такі, што палітычная паліцыя і „нашы ўкраінцы" абароняць грамадства Беласточчыны перад злачыннымі пасяганнямі БДА.

Шаноўныя панове, гэта прыемна, калі хтосьці бачыць у нашай арганізацыі гэткую сілу (хай сабе і дэманічную), але ж вы нас яўна пераацэньваеце. Узамен за дэмагогію і хлусню наш адказ вам: усяго вам добрага! Будзьце сабе кім хочаце: „тытанамі працы", „сапраўднымі беларусамі", „сапраўднымі хрысціянамі", „сапраўднымі ўкраін-цамі", каб толькі ўжо не зусім свіннямі. Яшчэ раз усяго вам добрага!

Не буду крывадушнічаць і сцвярджаць, што дзеячы БДА з захапленнем адносяцца да таго, што зараз дзеецца ў БГКТ. Але ж не яны вінаваты ў паступовым распадзе Таварыства.

Каб праясніць сітуацыю і пазіцыю: самім беларусам і ў галаву не прыходзіла ствараць арганізацыю накшталт БГКТ. БГКТ, разам з іншымі меншаснымі таварыствамі, стварыў Сакратарыят ЦК ПАРП. Не значыць гэта, натуральна, што беларусам сталася нешта дрэннае. Наадварот - „вечная памяць" Уладыславу Гамулку за тое, што ўтварыў БГКТ. Без гэтае арганізацыі куды горш было б і са станам

(Працяг на стар.3)

## РЭСПУБЛІКА ПЕРАД ЗМЕНАМІ

**Інтэрв'ю з УЛАДЗІМІРАМ ЗАБЛОЦКІМ, дэпутатам ад БНФ-аўскай фракцыі ў Вярхоўным Савеце БССР, шэфам ценявога кабінету міністраў апазіцыі.**

*- Спадар Заблоцкі, чаму БНФ зараз прыступіў да фармавання ценявых структур улады, канкрэтна кажучы, стварае ценявы кабінет міністраў?*

- Мы пачалі аб гэтым думаць яшчэ ўвосень мінулага года, каб стварыць паралельныя структуры існуючай уладзе. Такая практыка існуе ў дэмакратычных краінах. Калі мы паволі падыходзім да шматпартыйнасці ў палітычным жыцці, дык нам гэты працэс трэба мацаваць. Трэба стварыць гэткі прэцэдэнт, каб паказаць нашым выбаршчыкам, што камуністычнае кіраванне - не вечнае. Каб наяўна ім усвядоміць, што ў шматпартыйнай сістэме ўлада можа пераходзіць ад аднае сілы да другое. Дзеля гэтага не патрэбны рэвалюцыйны шлях, а шлях, які вядзе да грамадскай згоды, эвалюцыйны шлях. Выбаршчыкі самі павінны вырашаць, якой палітычнай сіле перадаць уладу.

*- Што зараз, у ліпені 1991, трэба разумець пад назовам „апазіцыя на Беларусі"?*

- Я разумею так, што рабочы рух, які нарадзіўся ў красавіку гэтага года, пашырыў сацыяльную базу апазіцыі. Бо рабочы рух у якасці свае праграмы ўзяў амаль усё з праграмы БНФ. Красавіцкія страйкі ад эканамічных пастулатаў перайшлі да палітычных. Рабочыя зразумелі, што без вырашэння палітычных пытанняў (канкрэтна - суверэнітэту) нельга вырашыць эканамічныя. Дык вось, праз гэтыя страйкі, як лічу, апазіцыі быў дадзены „сацыяльны заказ": каб апазіцыя пайшла больш рашуча, ствараючы такі ценявы кабінет.

*- Якія галоўныя палітычныя імпульсы патрэбны Беларусі, каб вывесці яе з эканамічнага тупіку і скіраваць на шлях да рынкавай эканомікі?*

- Беларусь зараз - не самастойная краіна, яна разглядаецца як частка СССР. Беларусь зараз не мае магчымасці ўвесці сваю крэдытна-фінансавую сістэму, і грашовую, якія ў свой час патрабуюць мытні і свае мяжы, каб была свая эканамічная прастора. Калі гэтага не зрабіць, то ўсе пытанні будуць вырашацца па-за ёю. Таму мы за тым, каб надаць дэкларацыі аб суверэнітэце статус канстытуцыйнага закону. Гэта прадугледжана ў новым тэксце Канстытуцыі.

*- Ці лічыце рэальным, што новая Канстытуцыя можа быць прынята*

(Працяг на стар. 7)




- 50 -

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Сярод дзеячоў Беларускага таварыства выступаюць дзве тэндэнцыі. Першая аптымістычная, другая песімістычная. Староннікі першай схільны даказваць, што Беларускае таварыства поўнасцю выкарыстоўвае шанцы і магчымасці і што робіць сёння не меней, чым рабіла ў перыяды найлепшай сваёй праспернасці. Другія даказваюць, што Таварыства знаходзіцца ў стане поўнага ўпадку і што сённяшнія гады трэба залічыць да найгоршых у гісторыі яго дзейнасці. Здавалася б, што хто як хто, але я павінен прытрымлівацца погляду першага, а не другога. Аднак заўсёды кіраваўся я аб'ектывізмам і заўсёды пазбягаў танных захапленняў, пахвал і„культу асобы" ў адносінах да ўласнай дзейнасці, творчасці ці паставы. У сувязі з гэтым схільны я прыняць нейтральную пазіцыю ў гэтай справе і сказаць, што многія факты сведчаць у карысць першых, а многія ў карысць другіх.

Сёння прагну заняцца фактамі, якія даказваюць правату першых. Сярод гэтых фактаў галоўнае месца займае тое, што звязана з пабудовай Беларускага музея ў Гайнаўцы. Прыступаючы амаль сем гадоў таму назад да практычнай рэалізацыі ідэі пабудовы Музея, нават сярод староннікаў гэтай справы было нямала песімістаў. І, мабыць, іх бязвер'е пацвердзілася б жыццём, калі б месцам лакалізацыі Музея не была Гайнаўка і калі б за справу гэту не ўзялася найбольш актыўная кагорта ў БГКТ - гайнаўскія дзеячы. Ёсць і другі, надзвычайна важны, атрыбут справы. Датычыць ён геаграфічнага палажэння Гайнаўкі: як вядома, знаходзіцца яна амаль што ў цэнтры беларускамоўнага масіву ў Польшчы.

Гаворачы аб пазітыўных фактарах, трэба назваць і найважнейшы. З'яўляецца ім постаць галоўнага будаўніка Музея Кастуся Майсені, чалавека выключнай ахвярнасці і адданасці справе. Калі б не ён, справа Музея не дасягнула б такой высокай ступені пабудовы, якой можна пахваліцца сёння. Фанатычна ўлюблёны ў Музей Кастусь Майсеня патрапіў сабраць сродкі і мабілізаваць людзей да грамадскага дзеяння. Рэакцыя беларусаў з Польшчы аказалася выключна пазітыўнай. Праявілася яна ў грашовых складчынах, ва ўдзеле ў будаўнічых работах, у ахвяраваннях этнаграфічных экспанатаў. Дзеянні гэтыя прадаўжаюцца. Аднак былі б мы не ў згодзе з праўдай, калі б сказалі, што ўсе беларусы з аднолькавым энтузіязмам адносяцца да Беларускага музея. Ёсць і такія, на жаль, вядучыя дзеячы некаторых беларускіх арганізацый, якія пхаюць палкі ў колы ідэі пабудовы Музея. Адны з іх пішуць лісты на Захад, дэмабілізуюць тых эмігрантаў, якія дапамагаюць Музею, другія, сабраўшы грошы на Музей у Канадзе і ЗША ў 1988 годзе, і да сёння не перадалі іх у касу Музея, трэція тут на месцы пры розных нагодах заяўляюць, што пабудова Музея пазбаўлена сэнсу, бо палякі і так забяруць будынак, калі мы яго пабудуем. Чацвертыя, як могуць, так зводзяць да мінімум весткі аб Музеі ў беларускіх перадачах па радыё.

Тацццяна Гаранская, выдатны спецыяліст па музейных справах, супрацоўнік фонда беларускай культуры з Мінска, якая значна прычынілася да адкрыцця Музея і арганізацыі паспяховай выстаўкі ў лістападзе 1990 года, сказала мне, што звярнулася да аднаго супрацоўніка беларускіх перадач у радыё ў Беластоку з пытаннем, чаму радыё так мала гаворыць аб Беларускім музеі, а ён на гэта: „Гэтая тэма нас не цікавіць".

Скажыце, чытачы, ці ёсць больш істотная тэма, чым музейная? На шчасце, усе гэтыя маладушныя людзі не ў стане затармазіць развіццё вялікай гістарычнай справы - пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы. Не толькі ў Польшчы, але далёка па-за межамі краіны знайшліся людзі душой і целам адданыя таму, што сталася гонарам усіх беларусаў - Музею.

**Алесь Барскі**

**************************************************************************




**У ваяводскай управе ў Беластоку** 31 ліпеня г.г. адбылася сустрэча намесніка кіраўніка гандлёвага бюро СССР у Варшаве і адначасова прадстаўніка Беларускай Рэспублікі пры Пасольстве СССР **Мікалая Петрушкевіча** з польскімі бізнесменамі. У ходзе спаткання разглядаліся магчымасці наладжання гандлёвых кантактаў і тавараабмену паміж Беластоцкім ваяводствам і Беларуссю. На сустрэчы прысутнічалі прадстаўнікі Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта. Вырашана, што неўзабаве будзе створана гандлёва-інфармацыйнае агенцтва па гаспадарчаму супрацоўніцтву з Беларуссю, а ў верасні - кастрычніку адкрыецца ў Гродне вялікая выстаўка польскіх тавараў.

**Сем літоўскіх мытнікаў і паліцыянтаў** было забітых, а адзін цяжка паранены падчас атакі на гранічны пост у **Медніках** на літоўска-беларускай граніцы. Мытня ў Медніках знаходзіцца ў лесе, здалёк ад мястэчка. Літоўскае МУС і пракуратура ўзбудзілі інтэнсіўнае следства. Камандаванне спецыяльных атрадаў савецкага МУС - ОМОН - запярэчыла чуткам, што быццам бы гэты замах учынілі іхнія салдаты.

**Каля ста цыганоў выязджае кожны дзень з Польшчы ў Швецыю ў пошуках палітычнага прыстанішча.** Шведскія ўлады ставяцца да гэтага адмоўна і адсылаюць іх назад у Польшчу са штэмпелем у пашпарце, які забараняе ім уязджаць у Швецыю на працягу двух гадоў. „Польшча зараз прытрымліваецца правоў чалавека; ніякія грамадскія групы, ні паасобныя людзі не праследуюцца ўладамі. Таму польскія грамадзяне якой-небудзь нацыянальнасці, у тым ліку і цыганы, не маюць шанцаў на атрыманне палітычнага прыстанішча"- заявіў прадстаўнік Пасольства Каралеўства Швецыі ў Польшчы.

**Галоўная рада руху аўтаноміі Шлёнска** паставіла міністру нацыянальнай абароны **Пётру Каладзейчыку** закід, што той „раздражняе адносіны паміж насельніцтвамі Шлёнска і іншых рэгіёнаў" і ўнушае існаванне на Шлёнску „нейкай, бліжэй не названай, пятай калоны". Закід быў сфармуляваны пасля выказвання міністра аб „адроджванні германскіх сентыментаў на Шлёнску".

**У Аполі стварыўся Краёвы выбарчы камітэт нямецкай меншасці.**

**Страты ў натуральным асяроддзі,** учыненыя савецкімі вайскамі, размешчанымі ў Польшчы, ацэньваюцца на 53 більёны злотых.









✱ Грабарка - год пасля трагедыі.
✱ Я веру ў збаўленне - размова з Сяргеем Новікам-Пеюном.
✱ Вера мацнейшая за час.
✱ Новая якасць студэнтаў беларусістыкі.
✱ Сімвалічныя помнікі загінуўшым змагарам.
✱ Парады і гумар.

# АБ БЕЛАРУСКІМ МУЗЕІ Ў ГАЙНАЎЦЫ

24 ліпеня гэтага года на запрашэнне старшыні Грамадскага камітэта пабудовы беларускага музея Кастуся Майсені, Гайнаўку наведалі старшыня ГП Аляксандр Баршчэўскі, некаторыя члены Прэзідыума, старшыня ГРК і Рэвізійнай камісіі камітэта Уладзімір Юзвюк, дзеячы БГКТ.

Старшыня К. Майсеня пазнаёміў прысутных з дасягненнямі і клопатамі будаўнікоў музея. Паводле яго падлікаў кошт будовы дасягае ўжо 5 мільярдаў злотых. У другой частцы музейнага будынка „Б" закончана ўнутры тынкаванне і да канца года памяшканні будуць здадзены ў карыстанне. Асабліва важныя тут кіназала, кавярня і гатэль, якія павінны даваць невялікія даходы, вельмі патрэбныя на бягучыя патрэбы.

У частцы будынка „Ц" выкананы сцены і перакрыццё першага паверху, а да зімы, калі хопіць фінансаў, будаўнікі абяцаюць закончыць першы, гэта значыць, і апошні паверх. Зараз аднак музейная каса амаль пустая. Пагражае спыненне будаўнічых прац.

У гэтым годзе, скардзіцца старшыня, вельмі слаба аплачваюцца складчыны пастаяннымі членамі камітэта пабудовы (па 60 тысяч злотых). Цяжка атрымаць фінансавую дапамогу ад дзяржаўных і кааператыўных устаноў. Зменшыліся ахвяраванні сімпатыкаў з нашай і з заходніх краін. Выказваліся нават здагадкі, што прычынай у апошнім выпадку ёсць распаўсюджванне там праз нашых турыстаў з Беласточчыны непраўдзівых інфармацый аб стане пабудовы музея і, асабліва, напрамках яго загаспадарання. Найчасцей інфарматары" гэтыя не ўносяць у пабудову ніякага ўкладу і нічога нават аб ім не ведаюць. Камітэт пабудовы атрымлівае невялікія сродкі са збораў падчас святаў, фэстынаў, агляду і іншых масавых імпрэзаў Беласточчыны. Не занядбоўвае дапамогі таварыства „Радзіма" ў Мінску.

У пабудове шмат непрадбачаных цяжкасцей. Падчас візіту на Беласточчыне міністраў культуры БССР і РП была паабяцана фінансавая дапамога. З-за мяжы ўжо прыйшло 50 тон цэменту, яшчэ столькі - рыхтуецца. Але паабяцаных 500 млн. злотых нашым намеснікам міністра чамусьці не рэалізуюцца. Калі цэмент да зімы не будзе выкарыстаны - сапсуецца. Прысутныя прапанавалі прыпомніць міністэрству аб патрэбе зрэалізавання ўзятых на сябе абавязацельстваў.

Паводле ацэнкі К. Майсені, цалкавітае заканчэнне пабудовы музея патрабуе яшчэ двух, а можа і трох мільярдаў злотых. Жахлівая велічыня патрэб. Заклапочаны К. Майсеня крыху весялее: „Ёсць грошы ў мяне, а зараз грамадска працуюць пры капанні равоў у недаступных месцах восем асоб: Міхась Голуб, Ян Ляшчук, Ян Леўчук, Мікалай Лукашук, Зігмунт Капачэўскі, Ян Карнілюк, Міраслаў Амельянюк і Ян Уласюк. Цяжкасцей многа, але ёсць дапамога".

Наведвальнікі паглядзелі пабудову. Творыцца сапраўды прыгожы, арыгінальны будынак. Выказалі яны падзяку Кастусю Майсеню і ўсім членам Грамадскага камітэта за ахвярную і плённую працу. Было многа розных прапаноў у справах загаспадарання музейнай плошчы. Як найхутчэй трэба стварыць раду музея, у склад якой, апрача мясцовых спецыялістаў, увайшлі б прадстаўнікі замежных арганізацый.

Ужо зараз запрапанавана збор мастацкіх твораў дзеля ўзбагачэння галерэі карцін беларускіх мастакоў, а таксама - кніжак для музейнай бібліятэкі. Што праўда, крыху кніжак музей ужо раней атрымаў з Беларусі. Пажадана адзначаць ахвяравальнікаў у „Ніве". Музей зацікаўлены ў кніжках на беларускай мове, якія кранаюць беларускую і нашу рэгіянальную праблематыку.

Закранута таксама многа іншых спраў, якія зараз хвалююць нашае асяроддзе.

**У. ЮЗВЮК**

# КУДЫ ІСЦІ БЕЛАРУСАМ?

( Працяг са стар.1 )

беларускай свядомасці на Беласточчыне, і са станам беларускай культуры. Ї не мае тут ніякага значэння, што працаўнікоў у Таварыства дэлегавала партыя, разам з афіцэрамі бяспекі дзеля нагляду. Людзі гэтыя атрымалі заданне выступаць пад шыльдай беларускай арганізацыі, арганізаваць калектывы й канцэрты. З цягам часу некаторым нават спадабалася быць беларусамі, хаця дзяцей сваіх яны выхоўвалі палякамі. У палітычных умовах 50-х і 60-х гадоў БГКТ адыграла пазітыўную ролю ў кансалідацыі беларускай грамадскасці ў Польшчы. Аднак жа, калі дзяржаўная палітыка ў адносінах да меншасцяў змянілася, за панавання Герка рукамі працаўнікоў БГКТ партыя пачала развальваць тое, што так рупліва стварала ў папярэднім перыядзе. Дзеячы Таварыства, перад усім як стаўленікі дзяржавы, а не беларусы, дабіваюцца ў той час ліквідацыі беларускіх школ, калектываў, музея і г.д. Аргументацыю, што беларускія школы, маўляў, непатрэбныя, бо перашкаджаюць у цывілізацыйным развіцці Усходняй Беласточчыны, хутчэй за ўсё прыдумаў не нейкі беларус, а салідны эндэк, хоць і з чырвоным партыйным білетам.

Сёння тая дзяржава, якая стварыла БГКТ дзеля сваіх патрэбаў, - прапала. Новае, паглыбляючыся ў тагальны балаган, пакуль што выразна не акрэсліла свае палітыкі да нацыянальных меншасцяў. Застаюцца людзі - штатныя працаўнікі Таварыства, нялёгкую працу якіх не хоча дацаніць ні дзяржава, ні грамадства. Зусім рэальная пагроза, што дзяржава перастане фінансаваць БГКТ, трактуючы яго як усе іншыя грамадскія арганізацыі ў краіне. Шкада было б, каб беларускае асяроддзе засталося без арганізаванай культурна-асветніцкай дзейнасці. Мала праўдападобнае, каб БГКТ здолела пераўтварыцца ў грамадскую арганізацыю (без дзяржаўных датацый) і працягваць сваю дзейнасць.

Калі ідзе пра БДА, дык існуе яно ўсяго паўтара года і з'яўляецца першай палітычнай арганізацыяй беларусаў пасля вайны. Магчыма, што ў праграме партыі і яе дзейнасці ёсць шмат памылак, магчыма, што яе лідэры не ўсім падабаюцца, але амаль 90% яе актывістаў - гэта людзі да 30 гадоў, якія раней не былі ні ў якай арганізацыі. Усе толькі пачынаюць вучыцца палітыкі. На жаль, старэйшае пакаленне не перадказала ніякай уласнай палітычнай думкі, ніякай палітычнай традыцыі. Мае рацыю Янка Жамойцін, калі піша, што БДА надзелена элітарным характарам. Толькі што спадар Янка, услед за іншымі, робіць памылковую калькуляцыю. Усе сучасныя еўрапейскія партыі маюць элітарны характар, а пра іхнія ўплывы зусім не сведчыць колькасць членаў. Партыя, на нашу думку, гэта група людзей, якая выпрацоўвае канцэпцыі вырашання асноўных палітычных, грамадскіх і эканамічных праблем. Зразумела тут, што гэтым заўсёды займаецца нейкая эліта, але ж гэта зусім не значыць, што сярод яе не павінна быць сялян, рабочых ці нейкіх іншых сацыяльных праслоек. Ведаем жа шматмільённыя партыі, якія пад сваім кантролем мелі паліцыю, армію, прапаганду і эканомію, - і правалілія. Большасць з нас прызвычаілася бачыць партыю накшталт камуністычнай. Ды толькі такія вось партыі, што кіравалі дзяржаўнымі сістэмамі ва Усходняй Еўропе, на самай справе партыямі не былі, а былі найважнейшай часткай дзяржаўнага апарату.

Шмат людзей, па аналогіі, якраз гэткай структурай хацела б бачыць і БДА. Ї расчаравалася, не ўбачыўшы ў ёй ці вакол яе нейкіх штатаў, грошай, уплываў. Некаторыя зноў жа спадзяваліся ўбачыць у ёй нейкую парамілітарную структуру, пачуць атмасферу канспірацыі, альбо і нейкай містыкі, у якой можна палечыць сфрустраваную душу. Таксама такога не знайшлі. З'яўляюцца і больш інтэлігентныя ды трывушчыя круцелі, у якіх за губою поўна беларускасці, хоць у сапраўднасці лёс беларускай справы ім глыбока абыякавы. Яны, дасягнуўшы сваю нейкую цалкам утылітарную мэту, таксама адыдуць. Словам, няма ў БДА нічога надзвычайнага, ні штатаў, ні грошай, ні экскурсій ці вечарын, а ёсць карпатлівая і нудная праца групы людзей, якія намерыліся выцягнуць Усходнюю Беласточчыну з эканамічнай руіны і палітычнай разлезласці. Паволі некаторыя справы вырашаюцца, нехта ўжо рэалізуе нават эканамічныя кантракты, якія без дапамогі БДА былі б немагчымыя. Цяжкая праца, бо вымагае арганізаванасці, цярплівасці і сістэматычнасці, без спадзявання на маментальныя вынікі. Але толькі ў арганізаванасці можна прыдбаць грошы, патрэбныя нашаму рэгіёну на інвестыцыі і пабудову эканамічнай інфраструктуры, без якой наш рэгіён прападзе ў дэмаграфічным аспекце, а не толькі ў нацыянальным ці культурным. Найбольшы бар'ер у дзейнасці - гэта псіхалогія нашага беларуса; дзеля пераадолення гэтага бар'еру патрэбны час і спакой.

Беларусам патрэбна дыскусія, нават вострая, але патрэбна яна такая, якая вяла б да канкрэтных і сэнсоўных вывадаў. Утвораная з ініцыятывы БДА Рада беларускіх арганізацый дае ўсім асяроддзям аднолькавы „працэнт голасу" і можа стаць беларускім „мініпарламентам" у Польшчы. Ясна, што Рада не можа быць органам дасканалым і ахопліваць усё асяроддзе на Беласточчыне, бо не могуць, напрыклад, адбыцца непасрэдныя выбары ў Раду, але на сённяшні дзень яна з'яўляецца найбольш аптымальным варыянтам інтэграцыі беларусаў.

Падпарадкаваны гэтаму „парламенту" павінен быць Цэнтр беларускай культуры, які каардынаваў бы ўвесь комплекс намаганняў у сферы беларускай культуры, асветы і прапаганды. Аднак кіраваць Цэнтрам павінны „менеджэры" - прафесіяналы, рэалізуючы канцэпцыі Рады. У такой сістэме пра ўсе сродкі, якія ішлі б на беларускую культуру, вырашала б Рада, а не Прэзідыум ГП БГКТ. Вось тут, як мне здаецца, і знаходзіцца крыніца нашай „авантуры". Структуральная змена пазбавіла б БГКТ манаполіі на нейкую датацыю, карыстанне з памяшканняў, сродкаў транспарту і г.д. Таварыства сталася б толькі адным з некалькіх раўнапраўных карыстальнікаў беларускага фонду, які знаходзіўся б у дыспазіцыі дырэкцыі Цэнтра.

Дык чаго хоча БДА? Згодна са сваёй назвай, хоча дэмакратыі, „дэсталінізацыі" нашага беларускага жыцця.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

**********************************************************************************

# ЗОРА І ВІТАЎТ КІПЕЛІ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

**********************************************************

У канцы мая бягучага года пазваніў мне адзін з найвыдатнейшых беларускіх эміграцыйных дзеячоў, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Амерыцы, Вітаўт Кіпель, і сказаў, што чатырнаццатага чэрвеня прыязджае з жонкай у Польшчу і што хацеў бы наведаць усходнюю Беласточчыну з намерам правесці сустрэчы з беларусамі. Перспектыва сустрэчы з Кіпелямі ўцешыла мяне сардэчна. Пазнаёміўся я з імі ў часе свайго прабывання ў ЗША ў 1981 і 1982 гадах. Чуў ад беларусаў з Кліўленда і іншых амерыканскіх гарадоў многа добрага аб выключнай арганізацыйнай і інтэлектуальнай актыўнасці Кіпеля. Сустрэўшыся з ім, я пераканаўся, што пахвалы не былі роблены папусту. Сапраўды, Кіпель аказаўся чалавекам, які мала гаворыць, але многа робіць. Вось якраз з гэтага „мала гаворыць" бралася мая боязь, ці яго сустрэчы з беларусамі ў Польшчы будуць эфектнымі, бо вядома, што ўсе спатканні з людзьмі вымагаюць ад выступаючага дару слова. Ужо ў часе першай сустрэчы аказалася, што мая боязь была беспадстаўная...

Зора і Вітаўт Кіпелі прыехалі ў Варшаву 13 чэрвеня 1991 года і ўжо 14 чэрвеня а 10-ай гадзіне Вітаўт выступіў на сходзе настаўнікаў беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. Ї тут паказаў поўнасцю аратарскае майстэрства. Аратарскасць не абазначала аднак галаслоўнасці. Яго выступленне характарызавалася канкрэтнасцю і фактalогіяй. Гаварыў ён галоўным чынам аб беларускіх настаўніках, якія дзейнічаюць у розных палітычных сістэмах і, перад усім, ва ўмовах заходніх краін.

Гадзіну пазней ён ужо выступіў перад двумастамі вучнямі Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім. Ї тут поўнасцю пераўтварыўся з настаўніка ў вучня. Прыгожа расказаў аб лёсах беларускіх вучняў і студэнтаў у пасляваенны перыяд у Германіі, Бельгіі і Амерыцы. Паабяцаў кожнаму з жадаючых вучняў прыслаць збор твораў Арсенневай, Салаўя або Кавыля.

Выехаўшы з Бельска, заехалі мы ў родную вёску вядомай нашай дзяячкі Ані Красько. Кіпелі прагнулі перадаць прывітанні яе маці. Як жа вялікім было наша здзіўленне, калі аказалася, што дома знаходзіцца не толькі маці, але Аня, якая разам з дзецьмі прыехала з Гданьска. Не абыйшлося без сардэчнай гасціны і добрых размоў.

Каля пятай вечарам былі мы ўжо ў Гайнаўцы, у якую Кіпелі ехалі перад усім з той мэтай, каб сустрэцца з членамі камітэта пабудовы Беларускага музея. Адной сустрэчы як бы не хапіла для глыбіннага азнаямлення з пабудовай. Пераначаваўшы ў Гайнаўцы, Кіпелі спаткаліся з Канстанцінам Майсенем і яго людзьмі таксама пятнаццатага чэрвеня. Вітаўт і Зора ўсебакова цікавіліся ўсімі аспектамі пабудовы музея. Кульмінацыяй сустрэчы быў момант, у які Кіпель уручыў Майсені пяцьсот долараў як свой асабісты ўклад у музейны фонд. З пятнаццатага па шаснаццатае начавалі Кіпелі ў Белавежы. Пазнаёміліся з харством Белавежскай пушчы. Пакінуўшы Белавежу, вярнуліся ў Гайнаўку і прысутнічалі ў набажэнстве ў новазбудаванай царкве Св. Тройцы. Пасля гэтага паехалі ў вёску Козлікі, дзе на працягу некалькіх гадзін знаходзіліся на ўзлонні прыроды.

Вечарам адбылася сустрэча, арганізаваная Клубам беларускай інтэлігенцыі ў будынку БГКТ у Беластоку. Была гэта выключная па важнасці сустрэча. Кіпель даў у часе свайго выступлення шырокую панараму беларускага эміграцыйнага руху. Даклад быў дасканалы як у змесце так і ў форме і выклікаў дзесяткі пытанняў, на якія Кіпель даваў бліскучыя адказы. Пасля сустрэчы, якая трывала звыш дзвюх гадзін, аказалася, што Клуб беларускай інтэлігенцыі падумаў працягваць яе за багата застаўленым сталом.

Апошні акорд выступленняў Кіпеляў перад беларусамі меў месца 17 чэрвеня, калі спаткаліся яны з навуковымі супрацоўнікамі Кафедры беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце. Тут Вітаўт Кіпель прамаўляў зусім па-іншаму, чым рабіў гэта ў Бельску, Гайнаўцы ці Беластоку. Сканцэнтраваўся выключна на навуковым і выдавецкім руху беларускай эміграцыі. Прывёў вельмі цікавыя, наогул невядомыя сабраным, факты. Разгарнулася цікавая дыскусія, у якой праявіла актыўнасць Зора Кіпель - спецыялістка па беларускай літаратуры перыяду Вялікага княства Літоўскага.

Семнаццатага чэрвеня Кіпелі паехалі ў Люблін, каб прыняць удзел у польска-беларускай гістарычнай канферэнцыі. Пасля Любліна пабывалі яшчэ ў Познані і адляцелі ў Амерыку.

Чатыры супольныя дні далі мне магчымасць прыглядзецца зблізку да вядучага беларускага

( Працяг на стар. 8 )

# ШТО І ЧАМУ?

Дзевятнаццатага ліпеня Беластоцкі ваявода д-р Станіслаў Пруціс прыняў інж. Уладзіміра Новіка, апазіцыйнага дэпутата і сакратара Камісіі прамысловасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Сустрэча адбылася па ініцыятыве Беларускага дэмакратычнага аб'яднання і ўдзельнічалі ў ёй старшыня Галоўнай рады Сакрат Яновіч, выконваючы абавязкі намесніка каардынатара Краёвай управы Юрка Каліна, арганізатары Гаспадарчага гурта БДА Валянцін Сельвясюк і Міраслаў Цялушэцкі, паўнамоцны Беларускага выбарчага камітэта Мікола Ваўранюк, а таксама група кіраўнічых супрацоўнікаў адміністрацыі Ваяводскага ўраду. Гутарка мела грунтоўны характар і канцэнтравалася на перспектывах эканамічных сувязяў паміж беларускім і беластоцкім бізнэсамі. Добрай нагодаю дзеля яе з'явіліся запачаткаванне працэсаў прыватызацыі ды рынкавай эканомікі ў сумежнай Беларускай Рэспубліцы, што мае капітальнае значэнне для гаспадарчага жыцця ў Беластоцкім краі.

Дваццаць пятага ліпеня адбылася ў Мінску сустрэча прадстаўнікоў Беларускага дэмакратычнага аб'яднання і Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, новай партыі, якая фармуе сваю фракцыю ў парламенце Беларускай ССР і пашырае ўплывы ў рэфармаваных структурах уладаў рэспублікі. У сумесна падпісанай заяве м.інш. сцвярджаецца: ***„Адбыліся перамовы, якія праходзілі ў таварыскай і дзелавой атмасферы, і ў ходзе якіх было абмеркавана шырокае кола пытанняў, звязаных з узаемадачыненнямі і ўзаемасупрацоўніцтвам дзвюх партый на карысць беларускага народа"***. Грамадоўцы дэкларуюць, што ў замежнай дзейнасці будуць мець на ўвазе становішча і інтарэсы беларусаў у Рэспубліцы Польшча. Абодва бакі пагадзіліся на неабходнасці пастаянных кансультацый у цікавячых іх справах; вырашылі абменьвацца інфармацыяй аб дзейнасці партый, дэлегацыямі актывістаў і прыхільнікаў, у тым ліку ініцыятараў стварэння сумесных прамысловых, гандлёвых і пасрэдніцкіх фірмаў.

Апошняя дэкада ліпеня і пачатак жніўня аказаліся напружанымі ў дзейнасці Гаспадарчага гурта Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, якое ўсяляк намагаецца спрыяць фірмам беларусаў у Беластоцкім краі дзеля ажыўлення эканомікі рэгіёна. Услед за папярэднімі выездамі ў Мінск нашых бізнэсменаў Сяргея Мартынюка з Нарвы і Яна Галёнкі з Беластока, кіраўніцтва арганізавала магчымасці ўваходу на рынкі Беларускай Рэспублікі бельскай фірме Міраслава Цялушэцкага і Валянціна Сельвясюка. Пазітыўнымі для іх вынікамі закончыліся перамовы ва ўрадавых колах рэспублікі, м.інш. з міністрамі сельскай гаспадаркі і збожжавых прадуктаў, банкамі і паасобнымі мінскімі фірмамі. Падпісалі яны шматгадовыя пагадненні на продаж нашага збожжа, агародніны, садавіны, як і тавараў дробнай прамысловай вытворчасці; абмеркавана ўмовы наконт супольных інвестыцыяў, перш за ўсё ў галіне спажывецкіх вырабаў. Заключаны першыя кантракты, дзякуючы якім беластоцкія гаспадары змогуць збываць свае лішкі па прыстойных цэнах. Пры нагодзе варта зазначыць, што фірмы, якія яднаюцца ў Гаспадарчы гурт БДА, выпрацавалі ўжо некаторыя перспектывы і на рынках Захаду, што павысіць іх здольнасці ўводзіць мадэрныя тэхналогіі ў земляробства ды ў сумежныя з ім прадукцыйныя дзялянкі, чым зацікаўлены адначасна і савецкі бок. Трэба спадзявацца, што гэта добры пачатак.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**






*Старая хата ў Плюцічах.*
*Мал. У. Петрука.*

## НАСТАЎНІЦКІ АБМЕН ВОПЫТАМ

Згодна падпісанаму пагадненню аб супрацоўніцтве паміж Ваяводскай радай педагагічнага прагрэсу ў Беластоку і аддзяленнем Педагагічнага таварыства БССР у Гродне ў маі г.г. адбылося падвядзенне вынікаў сумеснага конкурсу на найлепшага настаўніка беларускай мовы. З гэтай нагоды прабывала на Гродзеншчыне дзевяціасабовая дэлегацыя з Беласточчыны (6 настаўнікаў, кіраўніцтва ВРПП і настаўнік-метадыст Тамара Русачык).

Конкурс арганізаваўся ў нас упершыню і стварыў ён магчымасць абмяняцца вопытам настаўнікам з Беласточчыны і Гродзеншчыны. На Гродзеншчыне конкурс праходзіў на школьным і міжраённым узроўнях. У міжраённых элімінацыях прысутнічалі нашы настаўнікі, якія прымалі ўдзел у чатырох уроках (кожны) і ў падсумаванні конкурсу ў Гродне, Смаргоні, Лідзе, Слоніме, Навагрудку і Ваўкавыску. Мелі яны магчымасць пазнаёміцца з кабінетамі беларускай мовы, дапаможнікамі і атмасферай вакол навучання роднай мовы. У кожным раёне быў выбраны адзін найлепшы настаўнік. Шэсць пераможцаў з Гродзеншчыны ў кастрычніку г.г. наведаюць Беласточчыну і сустрэнуцца са сваімі калегамі ў іх школах.

16 мая ў Гродне ў Педагагічным вучылішчы адбылася сустрэча ўдзельнікаў конкурсу з прадстаўнікамі Абласнога аддзялення народнай адукацыі, Педагагічнага таварыства БССР, Гродзенскага інстытута ўдасканальвання настаўнікаў, Таварыства беларускай мовы, Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Купалы і журналістамі. У час сустрэчы ставілася пытанне: што зрабіць, каб беларуская мова на Гродзеншчыне гучэла не толькі на школьных уроках? Старшыня аблана Аляксей Саўчык сказаў, што асветныя ўлады вобласці будуць намагацца, каб поўнасцю ажыццявіць „Закон аб мовах у БССР".

Старшыня беластоцкай дэлегацыі пазітыўна ацаніў супрацоўніцтва асветных устаноў Гродзеншчыны і Беласточчыны на працягу апошніх двух гадоў. Дзякуючы гэтаму супрацоўніцтву, па ініцыятыве ВРПП быў арганізаваны супольны конкурс на найлепшага настаўніка беларускай мовы. Плануецца арганізаваць такі конкурс і ў будучым.

**д-р Янка Зенюк**
старшыня Ваяводскай
рады педагагічнага
прагрэсу ў Беластоку

**********************************************************************

# НЕ ШУКАЮЧЫ ПАХВАЛЫ...

Вінцэсь Каратынскі нарадзіўся ў жніўні 1831 года ў вёсцы Селішчы Навагрудскага павета (цяпер гэта ў межах Карэліцкага раёна). 15 жніўня, сярэдзіна месяца, - гэта ўмоўная дата яго з'яўлення на свет. Яна замацавана ў гісторыі літаратуры і нікім не аспрэчана. Здарылася так, што ні шлюб Вінцэсевых бацькоў - „вольнага хлебароба" Аляксандра Каратынскага са шляхцянкаю Юзафатай з Далідовічаў, ні хрышчэнне яго не былі занатаваны ў кнігах Навагрудскага парафіяльнага касцёла.

У 1858 годзе, калі Вінцэсю Каратынскаму спатрэбілася хросная метрыка, яго маці звярнулася ў Мінскую каталіцкую кансісторыю, і мінулыя падзеі былі ўзноўлены з дапамогаю сведак. Але дата нараджэння паэта ўжо не прыгадвалася, толькі месяц. Хросным бацькам Вінцэся быў уладальнік селішчанскага маёнтка Ян Залескі, які даў свайму прыгоннаму селяніну Аляксандру Каратаю (пазней Каратынскаму) „вольную" менавіта ў сувязі з яго жаніцьбаю, бо калі б шляхцянка Юзафата выйшла замуж за яго, прыгоннага, яна стала б прыгоннаю таксама.

У школу Вінцэсь не хадзіў. Першыя прыступкі адукацыі адолеў пад наглядам мясцовага арганіста. Атрыманых ведаў хапіла, каб навучыць чытаць і пісаць малодшых братоў. Аднак яго практыка „дарэктара" на гэтым не скончылася. Настойлівая праца над сабою і няспыннае імкненне да ведаў прынеслі яму ў сваёй ваколіцы славу юнака вялікай вучонасці, і яго пачалі запрашаць даваць прыватныя ўрокі. Магчыма, вандроўкі Каратынскага па шляхецкіх хатах у прынавагрудскіх вёсках цягнуліся б яшчэ доўга, калі б ён не напаткаў колішняга уніяцкага святара Давідовіча, які быў знаёмы з Уладзіславам Сыракомлем, што жыў ля Міра, у не надта далёкім фальварку Залуча, але шмат друкаваўся ў віленскіх і іншых выданнях. Расказаўшы Давідовічу пра ўласныя паэтычныя спробы, Каратынскі, па сутнасці, прадвызначыў асабісты лёс. Давідовіч пазнаёміў Каратынскага з Сыракомлем, звёў, зблізіў дзве творчыя асобы.

Малады настаўнік-самавук, відаць, усведамляў, што без падтрымкі Сыракомлі яму не выбрацца на літаратурную дарогу. Таму прапанову стаць памочнікам-сакратаром вядомага ў краі паэта ён без хістанняў прыняў і пераехаў у Залуча. „Было гэта, - прыгадваў пазней Каратынскі, - у 1850 годзе, памятным поўным зацьменнем сонца, якое мы праз абкураныя шкельцы назіралі з Кандратовічам і Пшыбыльскім".

Галоўным заняткам яго было перапісваць начыста завершаныя творы свайго „патрона" і зрэдку адказваць на лісты, што прыходзілі ў Залуча.

Акрамя роднай беларускай мовы і шырока распаўсюджанай тады ў шляхецкім асяроддзі польскай, валодаў ён рускай, чэшскай, французскай і нямецкай мовамі, няблага арыентаваўся ў лаціне і да таго ж умеў іграць на скрыпцы.

Не выключана, што Каратынскі меў яшчэ і гаспадарчыя абавязкі, ва ўсякім разе нейкі час пасля ад'езду паэта з сям'ёю позняй восенню 1852 года ў Вільню ён, застаўшыся ў Залучы, быў далучаны да канчатковага вырашэння пэўных арандатарскіх праблем у фальварку.

У Вільню Вінцэсь Каратынскі пераехаў, па ўсёй верагоднасці, на пачатку 1853 года, калі Сыракомля жыў у доме Доўнара ў Абрамовіцкім завулку. Пад канец красавіка яны перабраліся ў падвіленскі фальварак Барэйкаўшчына, узяты ў арэнду. Пасля жаніцьбы са Станіславаю Цалінаю з Якубовічаў Каратынскі пасяліўся ў 1859 годзе ў віленскім прадмесці Папоўшчына. На той час ён быў ужо аўтарам трох кніг: зборніка вершаў „Чым хата багата, тым рада", выдадзенага ў канцы 1856 года, хоць тытульны аркуш быў пазначаны 1857 годам: паэмы „Таміла" (1858) і вершаванага памфлета „Выпіў Куба да Якуба" (1859).

Выданне першага зборніка вершаў не на шмат часу апярэдзіў паэтычны дэбют Вінцэся Каратынскага - публікацыя верша „Над калыскай" у польскім часопісе „Biblioteka Warszawska" (1856. Т. 2). Запрашаючы чытачоў у хату свае паэзіі, Каратынскі цалкам давярыўся Сыракомлю, які дбайна сачыў за тым, хто і з якім настроем прыйдзе на агледзіны паэтычнага плёну яго падапечнага. Вясковы лірнік быў амаль упэўнены, што яго чытачы стануць таксама і чытачамі Каратынскага. „У майскім нумары „Biblioteki Warszawskiej", - пісаў ён, - грамадскасць сустракае пад хвалюючым вершам „Над калыскай" невядомае ёй дагэтуль імя Вінцэнта Каратынскага. Мы ведаем шмат твораў гэтага аўтара, з якіх невялікі зборнік „Чым хата багата, тым рада" ідзе ў гэтую хвілю ў друк. Аўтар абуджае ў нас занадта моцнае спачуванне, каб мы віталі новую з'яву дачаснымі пахваламі. Цярністую дарогу пісьменніка ён выбраў сам - сам сабе няхай будзе абавязаны сваім поспехам..."

У часе складання зборніка „Чым хата багата, тым рада", у які Каратынскі наважваўся ўключыць не толькі вершы на




## СВЯТЫ ПРАПАДОБНЫ МАРЦІН ТУРАЎСКІ

Адным з найстарэйшых беларускіх святых ёсць малавядомы блажэнны Марцін Тураўскі. Аб яго жыцці можна даведацца толькі з жыцця святых благаверных князёў Барыса і Глеба, якія былі замучаны ў 1015 годзе. Фрагмент гэтага пераказу паказвае нам толькі адзін цудоўны выпадак з перадапошняга года жыцця святога Марціна. Там нічога не гаворыцца аб яго паходжанні, маладосці і паступленні ў манастыр. Сказана толькі, што ён быў манахам і служыў у Тураўскіх епіскапаў: „Некто старец, именем Мартын былв преж повар епископом Туровским: Симеону, Игнатію, Іоакиму. Сего епископ Георги свободи старости ради". Успомненыя тут епіскапы сапраўды былі на Тураўскім пасадзе, але, на жаль, да гэтага часу аб ніводным з іх не ведаем, калі яны займалі Тураўскі пасад. Аднак пачатак епіскапства Георгія гэта адзіная падзея, якая можа служыць для азначэння апошніх гадоў жыцця Марціна. Уладыка Георгі заняў Тураўскую кафедру пасля епіскапа Яахіма. На жаль, у гісторыі Тураўскай епархіі было двух епіскапаў Яахімаў: першы - на пачатку XII стагоддзя, а другі - у 1144 - 1146 гадах. Паколькі не ведаем даты прыняцця Тураўскай кафедры уладыкам Георгіем, таму нельга вызначыць дату смерці Марціна. Вядома, што на пачатку епіскапства Георгія манах Марцін быў ужо ў даволі старым узросце, праслужыўшы кухарам аж тром епіскапам запар. Манашаскі вобраз жыцця быў яму самы блізкі.

Кінуўшы кухарства Марцін, па дазволу Георгія, пайшоў у епіскапскі манастыр святых мучанікаў Барыса і Глеба, які знаходзіўся за горадам на востраве між Прыпяццю і яе прытокам Струмянём. Тады манастыры былі наогул малалюднымі, але ў манастыры Барыса і Глеба тады не было зусім нікога. Святы Марцін жыў у ім адзін.

Згаданае „жыціе" святых Барыса і Глеба расказвае аб адным выпадку з прападобным Марцінам. Стары манах цяжка захварэў і ляжаў адзін у сваёй келлі, без ніякай дапамогі. Ляжаў ён некалькі дзён непарушна, без вады, дакучала яму смага. Хвароба ахапіла манаха якраз у час веснавога разводдзя,



калі наогул да вострава цяжка было дабрацца. На трэці дзень такога бездапаможнага ляжання, да яго ў келлю з'явіліся два маладыя князі ў вайсковай форме. Князі запыталі прападобнага Марціна: „Што ты, старча, хварееш". Манах расказаў ім аб сваёй хваробе і дадаў: „Нікому даць мне піць". Тады малодшы з князёў узяў вядро і прынёс ваду, а старэйшы напаіў хворага. „Хто вы такія?" - запытаў пазней Марцін. Яму адказалі, што яны „браты Яраславовы". Прападобны падумаў, што яны браты Мінскага князя і трэба іх угасціць. Ён сказаў: „Вазьміце хаця хлеба". Незнаёмцы адказалі яму: „Няхай хлеб застаецца Табе, а мы пойдзем. У нас ёсць справа ў Канстанцінопалі. Ты больш не хварэй, не усні". Старац, пачуўшы гэтыя словы, выздаравеў, але гасцей не ўбачыў. Яны зніклі так, як з'явіліся. Толькі пазней прападобны Марцін зразумеў, што да яго ў келлю з'явіліся святыя мучанікі Барыс і Глеб у такім выглядзе, як яны былі намаляваныя на іконе ў манастырскай царкве. Аб гэтым цудоўным здарэнні манах Марцін расказаў свайму духоўнаму айцу і відавочна тады была запісана гэтая падзея. Пасля таго цудоўнага аздараўлення Марцін жыў яшчэ цэлы год.

Як зразумець гэты фрагмент жыцця святых Барыса і Глеба. Напэўна не толькі як паказальнік яшчэ аднаго цудоўнага выздараўлення благаверных пакутнікаў. Дарога адных з першых рускіх святых Барыса і Глеба ў Канстанцінопаль гэта прадказанне кананізацыі прападобнага Марціна. У тыя часы Праваслаўная царква на тэрыторыі былога Вялікага княства Кіеўскага была юрыдычна падпарадкаваная Канстанцінопальскаму патрыярху. Толькі там магла наступіць кананізацыя благавернага манаха. Блажэннага Марціна пачалі шанаваць як мясцовага святога адразу пасля яго смерці. У тым часе (XII ст.) Тураў быў важным духоўным і палітычным цэнтрам, таму і епіскапы маглі праяўляць шмат самастойнасці ў справе культу святых. У наступным стагоддзі Тураў занепаў ад татарскага наезду. Разам з тым загінулі весткі з жыцця святых тураўскіх з XII стагоддзя: Марціна, Лаўрэнція і Кірылы.

Памяць прападобнага Марціна Тураўскага святкуецца ў Праваслаўнай царкве на Беларусі 27 чэрвеня.

**АНТОСЬ МІРАНОВІЧ**

## БЕЛАРУСКІЯ ДЗЕЦІ НА АДПАЧЫНКУ Ў ОЛЬШТЫНЕ

Аварыя на чарнобыльскай атамнай электрастанцыі стала вялікім няшчасцем беларускага народа. Ад радыяцыі пацярпела шмат гарадоў і мястэчак Беларусі: Гомель, Мазыр, Рэчыца, Жлобін, Церахоўка, Брагін, Камарын... Асабліва пацярпелі ад радыяцыі дзеці. Шмат устаноў (прадпрыемствы, дабрачынныя арганізацыі) ва ўсім цывілізаваным свеце арганізуе дзеткам з радыеактыўна забруджаных раёнаў Беларусі адпачынак у чыстым асяроддзі. І вось, 10 чэрвеня адна такая група дзяцей прыехала ў Ольштын. Іхні прыезд арганізавалі Кааператыў „Цэль" і турыстычнае бюро з Любліна. Група налічвала 37 дзяцей. З дзецьмі прыехалі таксама лекар Надзея Радонава, выхаваўца Мікалай Коцур і апякун групы Святлана Радонава. Дзеці жылі ў гасцініцы прадпрыемства жыллёвых і бытавых паслуг. У гэтай жа гасцініцы дзеці, у святліцы, глядзелі відэафільмы. У сонечныя дні гулялі ў мяч на пляцоўцы пачатковай школы, што знаходзіцца непадалёку, альбо знаёміліся з горадам - былі ў музеі „Варміі і Мазур", „Мазурскім скансене". Беларускія дзеткі пасябравалі з вучнямі пачатковай школы нумар 2 - перадалі адзін аднаму адрасы.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

*****************************************************************

польскай мове, але і на беларускай, Сыракомля прапанаваў усё, што напісана пабеларуску, адкласці і падрыхтаваць асобную сумесную кнігу беларускамоўнай паэзіі. Аднак на гэты раз па нейкіх прычынах цікавая задума не была ажыццёўлена.

На Сыракомлеву апеку Каратынскі адгукнуўся прачулым вершам, у якім праз алегарычныя вобразы бусла і ластаўкі раскрыў глыбокі грамадзянскі сэнс сваіх стасункаў з прызнаным песняром беларускага краю. „Дробная ластаўка - кволая птушка", вяртаючыся з выраю, разлічвае на дапамогу бусла, сядае на яго крыло; на радзіме, „хоць яшчэ холад навокал суровы", бусел і ластаўка супольна славяць блізкую вясну:

*З добрай душою прымаюць ліцвіны.*
*Птушкі будуюць супольны свой домік,*
*Каб жыць па сэрцы сям'ёю адзінай:*
*Бусел аснову кладзе, падваліны,*
*Ластаўка калівы носіць саломін.*

*А як не зрыне гнязда віхар весні,*
*Птушак не выжане ў шлях небяспечны -*
*То яны людзям надзею ўваскрэсяць,*
*Душам іх вымаляць гарт сваёй песняй,*
*Плённага жніва ім нашчабечуць.*

Абодва паэты добра ўсведамлялі і агульнасць вытокаў свае творчасці, і агульнасць мэты, якой яны служаць. Каратынскі, натуральна, улічваў вопыт вясковага лірніка ў адлюстраванні навакольнага жыцця і творча засвойваў яго паэтычныя дасягненні. Як і Сыракомля, ён выступаў за тэндэнцыйную, дзейсную літаратуру, звязаную з рэчаіснасцю і падначаленую жыццёвай праўдзе. Каратынскі сцвярджаў, што „мастацтва павінна кіравацца праўдай, павінна змагацца за справу вечна жывой праўды, бо ў адваротным выпадку, як з'ява без мэты ці з часовай мэтай, яно зробіцца абыякавым для грамадства". Прытрымліваючыся такога разумення задач літаратуры, аўтар зборніка „Чым хата багата..." дапаўняў сваімі польскімі і беларускімі творамі намаляваныя папярэднікам-настаўнікам абразкі народнага жыцця („Віцiннік увосень", „Віцiннік увесну", „Маёй свіце"), салідарызаваўся з ім у адмаўленні прыгонніцтва („Пасля



сватання", „Бярозка", „Выдуманая песня"), пашыраў яго межы асваення беларускага фальклору („Сірата", „Сваты" „Два каханні", „Туга на чужой старане"), адкрываў рытмастваральныя магчымасці народнага танічнага верша. Школа Сыракомлі прыдалася Каратынскаму ў працы над паэмаю „Таміла", асабліва пры перадачы настрою апавядальніка, які вяртаецца на радзіму, і ў стварэнні вобраза галоўнага героя - працавітага і сумленнага Тамілы. Паклаўшы ў аснову паэмы не прыблізныя ўяўленні пра беларускае сялянства, а знаёмыя з маленства карціны прыгоннага жыцця вёскі, паэт суперажывальна расказаў пра зацятае змаганне старога Тамілы з мужыцкай нядоляю.

Пасля таго, як выйшла кніга „Выпіў Куба да Якуба", Каратынскі ўсё радзей і радзей выступаў у друку з вершамі. Прыйшлі нешчаслівыя, хоць, здавалася б, поўныя надзей шасцідзесятыя гады. Восенню 1862 года памёр Сыракомля. Паліцыя пачала падазраваць Каратынскага ў напісанні нелегальных антыцарскіх брашур. На кватэры паэта быў учынены вобыск, але нічога „нядобранадзейнага" не знайшлі. У 1865 годзе царскі сышчык еўрапейскага маштабу Юліян Балашэвіч (дарэчы, ураджэнец Беларусі) даносіў трэцяму аддзяленню: „Прашу звярнуць увагу на супрацоўніка музея ў Вільні - Каратынскага, які разам з Сыракомлем, Акелевічам і Зянкевічам стварыў прапагандысцкую арганізацыю". Умовы жыцця ў сталіцы так званага Паўночна-Заходняга краю станавіліся невыносныя, і ў 1866 годзе, на самым пачатку, Каратынскі, тады ўжо бацька двух сыноў - Людвіка і Уладзіслава, выехаў з сям'ёю ў Варшаву. Там ён амаль цалкам прысвяціў сябе польскай журналістыцы. Стала працуючы ў „Gazecie Warszawskiej", ён супрацоўнічаў таксама ў часопісе „Tygodnik Ilustrowany", рэдагаваў матэрыялы для „Wienca", „Tygodnika Powszechnego".

За першы год жыцця ў Варшаве ён напісаў шмат артыкулаў пра беларускія гарады (Валожын, Вілейка, Віцебск, Слуцк, Стоўбцы і інш.) ва ўсеагульную польскую энцыклапедыю, пазней прычыніўся да рэдакцыйна-выдавецкіх спраў „Календара Явароўскага", дзе таксама друкаваўся, напісаў біяграфічныя нарысы пра Міхаіла Юр'евіча Лермантава, Мікалая Васільевіча Гогаля, пра Антона Эдварда Адынца і Юзафа Ігната Крашэўскага, Канстанціна і Яўстаха Тышкевічаў, Ігната Дамейку, Юліяна Гарайна, Мікалая Акелевіча, закончыў „Дадатак да біяграфіі Адама Міцкевіча" - як вынік бесперапыннай увагі да свайго славутага земляка, велізарны, на шмат аркушаў нарыс „Карціны з берагоў Нёмана", які вяртаў аўтара да вандровак маладосці, узнаўляў у яго памяці родныя мясціны, бо, загружаны працаю, ён, здаецца, толькі аднойчы вырваўся на Наваградчыну, каб наведаць брата Міхала ў Бурдзевічах.

„Мала хто з нашай літаратурнай і журналісцкай брацці, - гаварыў пра яго Адам Плуг, - такі, як ён, аб'ём працы ўзвальваў на свае плечы і мала хто выконваў яе так спакойна, не выказваючы скаргі і не шукаючы за яе сабе пахвалы". Каратынскі не любіў гучных размоваў і шумлівых кампаніяў, падтрымліваў гутарку, звычайна, у коле трох-чатырох субяседнікаў, і тады ад яго зыходзіла нейкая спакойная сіла, ясная шчырасць, „нейкая энергія сімпатыі". Такім яго ведалі варшаўскія газетчыкі і называлі між сабою „барадатым ліцвінам". Яго невысокую, але моцную постаць з трывала пасаджанай галавою на дужых плячах, з чупрынай густых валасоў над высокім лобам, з кусцістымі брывамі і густой барадою, адпушчанай у Варшаве, амаль заўсёды можна было бачыць за сталом рэдакцыі „Gazety Warszawskiej". За сталом ён і памёр 7 лютага 1891 года.

Літаратурная спадчына Вінцэся Каратынскага багатая сваёй чалавекалюбнай цеплынёю, суперажываннем, духоўнай пульсацыяй думкі, памкненнем да сацыяльнай раўнавагі ў людскіх стасунках. І ў нас, яго нашчадкаў-землякоў, людзей канца XX стагоддзя, няма ніякага маральнага права адмаўляцца ад гэтага багацця.

**УЛАДЗІМІР МАРХЕЛЬ**

# ХЛЕБА І „БАСОВІШЧА”!

2. MAKE LOVE NOT CHILDREN

Другі дзень Фестывалю музыкі Маладой Беларусі - субота, 13 ліпеня. Калі ўдзельнікі „Басовішча-91”, артысты і публіка, адлежвалі яшчэ косці пасля музычнага марафона першага дня, Беласточчына выслухала па радыё справаздачу з першай часткі канцэртаў. Ну й пачалося! У Барык вокамгненна даляцела плётка, што нібыта канферансье фестывалю Яна Максімюка адлучаюць ад Адзінай Праваслаўнай - за ягоную прамову.

На другі дзень Ян Максімюк сказаў:

*Калі ўжо хтосьці хоча даведацца, а пад якім жа заклікам праводзіцца „Басовішча”, дык я яму адкажу - пад заклікам „Make love not children”, што тлумачыцца па-нашаму: „Кахайцеся, але не рабіце дзяцей”. Я не ведаю імпрэзы, якая так як наша, была б пазбаўлена палітычных, эканамічных, маральных і якіх там яшчэ падтэкстаў. І таму не верце нікому, хто будзе пасля прышываць „Басовішчу” нейкія латкі. „Басовішча” ёсць імпрэза чыста эратычная - прынамсі да гэткай імкнецца. У сферы эстэтычнай „Басовішча” падтрымлівае музыку нашага веку - rock and roll - адвечны эратычны рытм чалавецтва. У сферы сацыяльнай „Басовішча” не падтрымлівае нічога. А пратэстуе супраць аднаго: супраць забароны продажу прэзерватываў у Польшчы і ўвогуле ў свеце. Кажучы агульна: пратэстуе супраць таталітарызму ў эратычным жыцці чалавека.*



*„Грамада”: Генусь Шэмет, клавішы, спеў.*

Цяжкі абавязак запачаткавання канцэртаў другога дня фестывалю спачыў на Алесю Камоцкім з Мінска. Пасля яго на сцэну ўвайшла прадстаўніца Беласточчыны Альжбета Бэзюк. Эля спявала на словы нашых беластоцкіх паэтаў: Надзеі Артымовіч, Уладзіміра Гайдука, Андрэя Сцепанюка... Творчасць Элі, як ні глядзець, адметная ў беларускай аўтарскай песні, якую выконваецца па гэты бок лініі Керзана. Выконваецца яе тут, зразумела, трошку іначай, чым у Беларускай Рэспубліцы - час ад часу, як кажа Віктар Шалкевіч, тхне беларускай калькай польскай паэзіі, але ў гэтым то й наша адметнасць. Выканаўцу ніколі не вызваліцца ад краіны, у якой ён жыве, так сказаць, ад культурнага імперыялізму тае ж краіны. Аўтарскую частку другога дня закончыў Воўка Кандрыкінскі з Мінска - кантрабасіст Дзяржаўнага хору БССР імя Цітовіча. На „Басовішчы”, аднак, Воўка іграў на гітары - дзесяціструннай. На пачатку свайго канцэрту Воўка заявіў: я знаёмы Камоцкага і Сіманенкі. Усё гэта праўда. Выканаўцаў з Беларусі запрашаў Багдан „Бодо” Сіманенка, які паўгода прасядзеў у Мінску і іншых гарадах рэспублікі, пранюхваючы тамашні музычны рынак. І вось, аднаго разу, „Бодо”” сустрэў Воўку Кандрыкінскага, пайшлі на піва, Воўка праспяваў свае песні. Добра, Воўка, ты выступіш у нас на „Басовішчы”! Так, Воўка выступіў, але сцыкаўся і не праспяваў сваіх дзвюх найлепшых песняў: „Сымон” і „Чорны бусел”.



*Альжбета Безюк.*

**************************************************************

МАСЕЙ СЯДНЁЎ

# БЕЛАСТОЦКІ СШЫТАК

## АРТЫКУЛ ЧАЦЬВЕРТЫ

Газэта „Новая дарога”, якую выдавала Беларускае Аб'еднаньне ў Беластоку, мела, я сказаў-бы, нямала сваіх дапішчыкаў. Гэта былі не журналісты-прафэсіяналы, а актывісты беларускага жыцьця на Беласточчыне: кіраўнікі адзьдзелаў Аб'еднаньня, настаўнікі, людзі, што спрабавалі сваё пяро ў мастацкай літаратуры, іншыя грамадскія дзеячы. Мела газэта і сваіх замежных карэспандэнтаў. Я назваў-бы „Новую дарогу” масавай газэтай, стымулянтам беларускага - назавём яго так - руху на Беласточчыне падчас Другой сусьветнай вайны. Яна была жывой газэтай, жыла на энтузіязьме найбольш адданых беларускай справе людзей. Яна была беларускай газэтай па сваёй сутнасьці і толькі дэклярацыйна - „прафашысцкай”, як цяпер ахрышчаны ўсе беларускія газэты і часапісы, што выдаваліся падчас вайны за мяжой. Дый тая дэклярацыйнасьць, думаецца, была вымушанай, была данінай часу. „Новая дарога” была, урэшце, сялянскай газэтай: у ёй знаходзіў так ці інакш свой адбітак быт селяніна Беласточчыны.

Душой газэты, трэба сказаць, быў усё-такі ейны рэдактар, паэт Хведар Ільляшэвіч. Ён дбаў пра яе найбольш. Нямала і сам пісаў у яе, і як гэта часта даводзіцца рэдактару - нярэдка пісаў пасьпешліва, на каленку, недастаткова ўдумліва, шаблонна, што магло даходзіць і да абсурду. За гэтую пасьпешлівасьць яму, бывала, й пападала, напрыклад, з боку Бэрлінскай, „вышэйшай” газэты „Раніцы”. Ільляшэвіч падпісваў свае рэчы, як **М. Дальны.** Яму і ўсыпаў нехта **Бліжні.** Гэты Бліжні надрукаваў у „Раніцы” досыць зьедлівы артыкул пад назвай „Пугай па вадзе”.

М. Дальны страшна перажываў, але рук не апушчаў.

Ці быў цэнзар у „Новай дарогі”? Быў. Быў. Ніхто іншы, як ужо знаёмы нам Гофман. Той прасіў чытаць яму асноўныя матэрыялы, падрыхтаваныя ў нумар. Слухаў іх. Калі што было яму незразумелае, прасіў перакласьці па-нямецку. Я ня ведаю, ці што-небудзь ён ня пушчаў: я ніколі не хадзіў да яго чытаць яму матэрыял - хадзілі толькі тыя, хто ведаў нямецкую мову. Мяне ён усё назваў „партызанам”, пытаўся часамі ў тых, хто прыходзіў да яго на цэнзуру, ці скончылася ў газэце „сяднёўшчына”. Я, відаць, яму назаляў сваімі бясконцымі вершамі і опусамі пра рэпрэсіраваных беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў. Яму нават не падабаўся мой вонкавы выгляд. Ня любіў ён „беларускага патрыятызму” ў газэце, але цярпеў. А ўвогуле, тыя, хто хадзіў да яго на цэнзуру, гаварылі, што ён рэдка калі слухаў уважліва, пераважна - драмаў, асабліва, калі быў выпіўшы.

Ільляшэвіч лічыў газэту сваім творам і радаваўся, калі ейны тыраж узрастаў. Ён любіў назіраць **доўгую чаргу** па газэту ў Беластоку. Любаваўся, калі бачыў, што па беларускую газэту большая чарга, чымся па польскую. Цешыўся, як малое дзіця, калі бачыў, як зімой пражджаюць на санёх сяляне купляць газэту ў Беласток. А вось якім тыражом выходзіла газэта, я й ня ведаю. Досыць таго, што газэта, у выніку павялічэньня тыражу, пачала нават выплачваць ганарар некаторым аўтарам.

Ладна падскочыў тыраж газэты дзякуючы сатырычным творам аднаго ананімнага аўтара - нейкага Шэршаня. Ён прыдбаў для газэты шмат дадатковых падпішчыкаў. Хто хаваўся пад псэўдонімам **Шэршань,** Ільляшэвічу так і не ўдалося высьветліць. Думаў, што можа Міхась Васілёк, але тут-жа і адкідаў такое прыпушчэньне: ня той стыль. Дарэчы, усе спробы Ільляшэвіча здабыць Міхася Васілька для працы ў газэце ня мелі посьпеху: Васілёк вагаўся, сымпатызаваў беларускаму абуджэньню ў Беласточчыне, але на супрацоўніцтва ня йшоў. У Камітэце я ўпяршыню і пабачыў проста легендарнага для мяне Міхася Васілька: кожная згадка пра яго ў прэсе савецкай Беларусі выклікала ў мяне, паэта-пачаткоўца, нейкі асаблівы інтэрэс да яго. Памятаю, менская „Звязда” пісала аднойчы, што Міхась Васілёк, нават ідучы за плугам, складаў вершы, і каб запісаць той ці іншы ўзьніклы верш, спыняў дзеля гэтага свайго каня. Гэта страшна імпанавала мне. Я зайздросьціў яму: ён усё-такі ў панскай Польшчы выдаў свой зборнік, а я ў савецкай Беларусі не магу. Скажу мімаходам - мой сьледчы на допыце ўпікаў мяне за тое, быццам я хацеў уцячы ў Польшчу дзеля большых там магчымасьцяў друкавацца.

І вось цяпер бачу ў Камітэце жывога Міхася Васілька. Ільляшэвіч гаворыць з ім, а я ня зводжу вачэй з Васілька.

Ды я не забыў пра нашага загадкавага Шэршаня. Падамо тут колькі „ўзораў” ягонага творства, творства, што так упадабаў чытач „Новай дарогі”. Колішні чытач газэты, што жыве цяпер у ЗША, трымае і цяпер у памяці вершы Шэршаня. Ад гэтага паклонніка таленту Шэршаня я й запісаў ягоную досыць-такі адкрытую, яхідную сатыру.

**Танец**

Танцавалі два бандыты:
адзін Соса, другі - Ціта.
Адзін - грузін, другі - серб,
а ў руках у іх - молат
і серп.
Як пайшлі гуляць
ў прысуды,
праліласся кроў усюды.
- Даешь мейсца!
Шырай круг! -
мала з іх ня выйдзе дух.
Чэрчыль хлопае ў ладошы,
Рузвэльт сыпле ў
шапку грошы.
А Соса глядзіць коса -
яны ў ботах, а ён босы.
Бочкам,
бочкам, незнарочкам
падкраўся да
іх з сярпочкам:
- Гэй, купцы,
зьнімайце боты!
Ускіпеў Чэрчыль:
- Што ты? Што ты?
Рузвэльт крычыць:
- Што за мус?
То ж у нас з табой саюз!
- Замаўчы, кульгавы
чорт ты,
бо сьцягну яшчэ і порты.
Я - бандыт, вы - гандляры.
Такі саюз - да пары.

**Падарунак ангельскага караля**

Ангельскі кароль Георгі
прысляў Сталіну свой меч.
А Сталін яму ватовік
са сваіх уласных плеч.

Калі гэтак пойдзе далей,
скончыцца анархія:



Воўка Кандрыкінскі.

Аўтарскую частку фестывалю і рок-канцэрты дасканала спалучыла выступленне Касі Камоцкай з гуртам „Новае неба". Кася Камоцкая выступала ўжо пару разоў на Беласточчыне. На першым „Басовішчы" - публіка сваім цёплым прыёмам распесціла яе да немажлівасці. Пазней - на „Свяце беларускай песні" ў Беластоку, калі то Кася, прынамсі ў маім адчуванні, канчаткова адчула сябе зоркай. А на „Басовішчы-91", *о, й-е!,* Кася была ў парадку, не ўпамінаючы ўжо пра *скрыпачку „Новага неба", секс-бомбу Лену Вішнеўскую.*

Тое, што адбылося пазней, несумненна ўскалыхнула гармонію фестывалю. Рок-гурты замест паслухацца арганізатараў, давай сварыцца між сабою за тое, хто мае перад кім выступаць. Так, яны нас тут трошку „зьніклі". У рэшце рэшт атрымаўся кампраміс. З другім канцэртам выступіў полацкі „Мясцовы час", а пасля яго „Мроя". „Мроя" - гурт вядомы на Беласточчыне, публіка ведае, чаго ад яго спадзявацца. Фаны зноў пачалі ўзлазіць на ўскрай сцэны і скакаць у публіку. Вялікай неспадзеўкай быў малады менскі рок-гурт „Рокіс". Хлопцы, мала таго, што не сцыкаліся,



*„Новае неба": Лена Вішнеўская, скрыпка*



*„Рокіс": Руслан Праўда, ,бас-гітара.*

але паказалі відовішча, якое перавысіла нават „Мрою".

Ужо падчас канцэрту „Рокіса" пачаў падаць дождж... На сцэну ўвайшоў канферансье фестывалю. Іграць на электрычных інструментах пад даждж̌ом небяспечна. *У гэты момант я павінен заказаць выступ гурта „Уліс". Але хлопцы прыехалі без вакаліста Андрэя Патрэя, які сур'ёзна захварэў. Андрэй не зможа ўжо спяваць ані сягоння, ані заўтра, ані ніколі. Выслухайце, калі ласка, са стужкі адзін, бадай, самы лепшы кавалак у беларускай рок-музыцы.* У Барыку сек дождж, публіка застыла. „Краіна доўгай белай хмары! Мы не растлумачым, скуль прыйшлі..."

„Басовішча-91" закончылася на гэтай нечаканай сумна-дажджыстай ноце. Не здолелі ўжо выступіць гурты „Ален", „Грамада" і „Грунвальд". Шкада іх.

Шкада Андрэя Патрэя...

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

*Фота аўтара*



*„Басовішча-90": Андрэй Патрэй.*
Фота Яна Максімюка.

************************************************************

будуць ў Англіі саветы,
а ў Саюзе - манархія.

**Тэгеранская сустрэча**

Раз ў Іране, ў Тэгеране,
сабраліся тры драні:
Сталін, Чэрчыль
і Рузвэльт.
Папілі сабе, паелі,
у выходку пасядзелі.
Атлянтыцкую ту карту
ці з няўвагі, ці для жарту -
добра ж такі жэрлі -
на шматкі парвалі
і - падцерлі.

Даруйце - гучыць гэта ня надта эстэтычна, але-ж зь песьні слова ня выкінеш. Паважаны чытач бачыць, як аўтар „гістарычных" частушак успрыймаў саюз аліянтаў з Сталінам, як ён турбаваўся за гэты саюз: „бандыт" Сталін незаводна абхітрыць, ашукае „няўклюдных" Чэрчыля і Рузвэльта. Ільляшэвіч ухапіўся за сатыру Шэршаня, як за нейкі ратунак. Шэршань ускалыхнуў чытача, ажывіў газэту. Іншы Шэршаняў твор „Цар літар", зьмешчаны ў газэце, хадзіў па руках, яго завучвалі напамяць. Праз сатыру Шэршаня газэта набыла, я сказаў-бы, папулярнасьць.

1991

## БЮРО БВК

Бюро Беларускага выбарчага камітэта знаходзіцца на вуліцы Варшаўскай 11
( тэл. 435-718 ).

Дзяжурствы праводзяцца ў сераду і пятніцу ў гадзінах 11.00-17.00.

## РЭСПУБЛІКА ПЕРАД ЗМЕНАМІ

**( Працяг са стар. 1 )**

*цяперашнім Вярхоўным Саветам?*

- Зараз ужо ўсё 70 членаў канстытуцыйнай камісіі пагадзіліся на асноўным тэксце. Розніца ў поглядах толькі такая, што адна група называе дзяржаву Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай, а другая - усяго толькі Рэспублікай Беларусь.

*- Як вам бачыцца пераход Беларусі да рынычнай эканомікі?*

- Наша думка такая, што да рынкавых адносін трэба пераходзіць адразу, комплексна. Таму што ўсе рынкавыя механізмы працуюць адно ў комплексе, са зваротнымі сувязямі. Калі, напрыклад, у нас не будзе рынку капіталу, калі не будзе рынку зямлі, то рынкавы механізм не запрацуе. Таму ўсё трэба запускаць адразу. Натуральна, мы не станем адразу багатымі, нам трэба будзе шмат працаваць, але ў варунках рынкавых адносін у нас будзе выйсце... Зварот да камандна-адміністрацыйнай сістэмы эканомікі, якая патрабуе пэўнай рэпрэсійнай сілы ў працэсе вытворчасці, - гэта не выйсце...

- Ваша думка наконт прыватызацыі: ці не баіцеся, што ёю пакарыстаюцца ў першую чаргу тыя нешматлікія, у каго зараз ёсць грошы, прыкладам, камуністычная наменклатура?

- Закон аб прыватызацыі павінен быць прыняты. Мы ў Вярхоўным Савеце заявілі, што тое спрыватызаванае камуністычнай наменклатурай да прыняцця закону павінна быць вернута народу, анулявана, гэта па-першае... Па-другое, прыватызацыяй павінна быць ахоплена ўся дзяржаўная маёмасць, у тым ліку і зямля. Мая прыватная думка такая, што сённяшнія нашы калгаснікі ці саўгаснікі наўрад ці стануць фермерамі. Фермерамі будуць тыя людзі, якія зараз жывуць у гарадах, маюць адпаведную адукацыю, з'яўляюцца дзяцьмі альбо і ўнукамі сялян...

*- Ці прадбачваеце, акрамя прыватнага сектару, існаванне ў эканоміцы рэспублікі і дзяржаўнага?*

- Адзін з пунктаў гледжання можа быць такі: дваццаць працэнтаў акцый аддаецца ўладзе - няхай яна вырашае, што ён купіць. Астатнія восемдзесят - людзям. Яны самі вырашаюць, што падтрымаць, а што не. Праз гэткі рынкавы механізм мы павінны даходзіць да структурнай перабудовы нашай эканомікі.

*- А як гэтая структура выглядае на Беларусі сягоння?*

- Звыш 80 % - гэта вытворчасць сродкаў вытворчасці, а 14-16 % - гэта вытворчасць тавараў народнага спажывання. У нармальных жа эканоміках гэтая структура выглядае зусім наадварот: 25 % у першай групе, 75 % - у другой... Дык вось, перад такімі складанымі структурнымі пераўтварэннямі мы знаходзімся. Але мы мусім іх правесці, каб уратаваць нацыю. Вымушае такі кірунак, звыш усяго, і чарнобыльская трагедыя нашага народу. Я дапускаю нават магчымасць пераходу Беларусі на нейкі час на натуральную гаспадарку, каб схапіць той кірунак, які нам патрэбны...

*- Ці Беларусь у змозе, пры пераходзе на рынкавую эканоміку, даць такую прадукцыю, якая магла б паслужыць прадметам экспарту на рынкі рэспублік Савецкага Саюза, і прынесці, такім чынам, прыбытак ад гандлю?*

- Я лічу, што адукацыя тэхнічнай кадры ў Рэспубліцы дазваляе зрабіць нейкія накірункі вытворчасці канкурэнтнымі не толькі на ўнутраным рынку Савецкага Саюза, але й на Захадзе. Прыкладам, рэспубліка ў прынцыпе можа выпускаць даволі канкурэнтныя легкавыя аўтамабілі - распрацоўка такой праграмы пачалася. Праблема ў тым, што трэба зменшыць так званую „металаёмкасць" на адзін рубель прадукцыі... Увогуле, перспектыўнымі ў Рэспубліцы з'яўляюцца навукаёмкія галіны прадукцыі, у якіх патрабуецца высокакваліфікаваная тэхнічная кадра: электронныя сістэмы кіравання, электронныя прыборы...

*- Словам, танкі Беларусі не патрэбны...*

- Не. Ваенна-прамысловы комплекс на Беларусі - гэта, залежыць як лічыць, 25-40 % бюджэту. Гэта, так сказаць, прадукцыя ваеннага часу. Беларусы ж не могуць жыць увесь час у варунках вайны...

*- Дзякую вам за размову.*

Інтэрв'ю ўзяў
**ЯК МАКСІМЮК**




З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА 1928.

- 45 -

Не маючы надзеі, што польскі ўрад задаволіць названыя вышэй патрабаванні, па прапанове Грыба і Мамонькі, быў падрыхтаваны мемарыял да Лігі нацый, у якім было сказана, што Польшча і Саветы самавольна падзялілі беларускую тэрыторыю, з якой Польшча захапіла 100.000 кв. кіламетраў з 4,5 мільённым насельніцтвам. Апрача гэтага ў мемарыяле знайшліся доўгія гістарычныя і этнаграфічныя разважанні ды інфармацыі аб польскім прыгнёце.

З асаблівай сілай мемарыял падкрэсліваў беларускі характар Гродзенскай зямлі і даходзіў да вываду, што толькі Буг і Нёман могуць быць справядлівай польска-беларускай мяжой. Мемарыял гэты меў быць уручаны спецыяльнай дэлегацыяй сакратару Лігі нацый у Жэневе.

**Раздзел XXII**

**Дамінуючыя плыні сярод беларускіх палітыкаў. Генерал Балаховіч. Арганізацыі: Беларускі нацыянальны камітэт. Мемарыял у Лігу нацый. Найвышэйшая беларуская рада і Беларускі дзяржаўны камітэт. Беларускія камуністы, эсэраўскі раённы камітэт, „Сувязь" Алексюка.**

З увагі на плыні, якія выступалі сярод беларускіх палітыкаў - з выключэннем беларускіх нацыянал-дэмакратаў, зямельных уласнікаў і скампраметаваных асоб у вачах бальшавікоў - большасць з іх прыхільна сустрэла б захоп усёй этнаграфічнай Беларусі або савецкімі ўладамі, або літоўцамі, таму што такім чынам наступіла б уз'яднанне беларускіх земляў.

Аўтарытэт Польшчы сярод беларускіх дзеячоў у гэтым часе зменшыўся, таму што зменшыліся надзеі на ажыццяўленне Польшчай беларускіх патрабаванняў.

Некаторыя арыентацыі, у пошуках шляхоў выхаду пачалі прыхіляцца да ген. Станіслава Булак-Балаховіча і прапанаваць яму абарону беларускай справы.

Ген. Балаховіч, бачачы карысныя для сябе акалічнасці, ахвотна згадзіўся з такімі прапановамі і зрабіў крокі з мэтай пачаць новае змаганне за незалежнасць Беларусі, калі б польска-бальшавіцкія размовы ў Рызе не давялі да заключэння міру.

1 лютага 1921 года ў генерала Балаховіча адбыўся тайны сход, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі Беларускага палітычнага камітэта, беларускіх нацыянальных арганізацый і прадстаўнікі партызанаў („Зялёны Дуб").

Мэтай гэтага сходу было выпрацаваць метад і праграму, якія павінны прыняць беларусы ў барацьбе з бальшавікамі.

Дырэктывай было імкненне да арганізоўвання партызанскай вайны, якая абапіралася б галоўным чынам на аўтарытэт ген. Балаховіча сярод беларускіх сялян.

Апрача гэтага было выяўлена пажаданне, каб Польшча дапамагла фармаваць з беларускіх уцекачоў работніцкія дружыны, якія ахоўвалі б беларускі нацыянальны элемент ад бальшавіцкай агітацыі і такім чынам захоўвалі б іх для нацыянальнай справы.

Адначасна на гэтым сходзе было пастаноўлена выдаваць у Варшаве беларускі часопіс, які прапагаваў бы нацыянальныя беларускія тэндэнцыі і падкрэсліваў бы супольнасць эканамічных і дзяржаўных інтарэсаў з Польшчай.

Аднак кантакт навязаны паміж ген. Балаховічам і ўпаўнамочанымі Найвышэйшай рады Смолічам і Тарашкевічам не аказаўся трывалым. Праўдападобна названыя дзеячы не хацелі ісці на паглыбленыя забавязанні ў адносінах да чалавека, які дзейнічаў на карысць Польшчы ў часе, калі сярод беларускіх дзеячоў пачаў паяўляцца песімізм у справе здзяйснення Польшчай беларускіх імкненняў.

*(Працяг будзе)*




Дарагое Сэрцайка! Ратлумач мне, калі ласка, што абазначае слова „добры" ў тваіх парадах. Вось ты ў апошнім часе пісала пра „добрых" каханкаў. Я разумею так, што "добры" - гэта такі, які ў любым выпадку дагодзіць жанчыне.

А вось я маю „добрага" хлопца (прынамсі ён гэтак лічыць і на першы погляд сапраўды так здаецца), які мне не заўсёды ўсё-такі дагаджае.

Нашы сустрэчы выглядаюць больш-менш так. Калі я ўжо прыходжу да яго, ён частуе мяне кавай і нейкім кілішкам, і мы так сядзім з ім і гаворым. Здаецца, што ён мяне і не хоча зусім, а проста трактуе як звычайную сяброўку. Момантамі думаю нават, што я непатрэбна да яго прыйшла. І раптам ён устае, падыходзіць да мяне і цягне на канапу. Сэрцайка, тыя мужчынскія „валёры" ці „габарыты", як ты калісь называла, у яго - о-го-го! - ёсць чым пахваліцца. Але што з таго, калі няма прэлюдыі, як кажуць, уступу да кахання. Я ўжо нічога не спадзяюся, чуць не дахаты пачынаю збірацца, а ён толькі тады быццам успамінае, што трэба было б са мной яшчэ схадзіць у пасцель. Мяне гэта вельмі абражае і ахалоджвае.

І яшчэ адно. Няхай бы ўжо і без прэлюдыі, але каб гэта хоць крыху трывала. А то - трах-бах - і гатовы. Кожны раз спадзяюся, што, можа, нарэшце будзе інакш. Але ж не - амаль кожны раз паўтараецца тое самае.

А мне ж бы так хацелася прыйсці да яго, калі ён у адным халаце, да кахаючага, чакаючага мяне, і ўсім целам прытуліцца да яго... І каб мы адразу пайшлі ў пасцель, і кахаліся доўга-доўга. А мой хлопец, нягледзячы на свае фізічныя „валёры", робіць гэта вельмі хутка і абы-як.

Што рабіць, Сэрцайка? Як дапасавацца да яго? Як разбудзіць з нейкай спячкі? І ці наогул мне гэта калісьці ўдасца?

**Бася**

Бася! А чаму ж ты не пішаш, колькі яму гадоў? Мо ён яшчэ не рассмакаваўся ў кабеце?!

А мо проста ён такі і кропка. Доследы паказалі, што большасці мужчын пяці мінут на зносіны з жанчынай дастаткова. Пяць мінут! А табе чаго захацелася?!

Што ж датычыцца так званай прэлюдыі, ці любоўнай ігры перад палавымі зносінамі, дык, можа, варта, каб ты выказалася большай актыўнасцю, а не сядзела і чакала.

Але ўсё-такі мушу сказаць табе адну рэч. Мужчыны з вялікімі „габарытамі" не заўсёды, але часта занядбоўваюць сваіх жанчын. Ім здаецца, што дастаткова ім іхніх надзвычайных памераў, каб задаволіць жанчыну. Пра рэшту яны наогул не клапоцяцца - ні пра ўступ, ні пра заканчэнне. І... вельмі задаволены сабою. Добра яшчэ, што не адпіхае цябе, зрабіўшы сваё... Бо і так таксама бывае.

**СЭРЦАЙКА**

## ЗОРА І ВІТАЎТ КІПЕЛІ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

**( Працяг са стар.3 )**

эміграцыйнага дзеяча Вітаўта Кіпеля. Калі б меў я свае ўражанні сфармуляваць у крайне лаканічнай форме, дык сказаў бы наступнае:

- Вітаўт Кіпель з'яўляецца чалавекам з выключна апалітычным складам розуму.

- Вітаўт Кіпель мае абшырныя і моцна паглыбленыя веды адносна беларускага эміграцыйнага жыцця, пачынаючы ад XVIII ст., а канчаючы апошнімі днямі.

- Вітаўт Кіпель не адарваўся ад рэчаіснасці „пакінутай Радзімы"; у ацэнцы гэтай рэчаіснасці не кіруецца фантастычна-рамантычнымі меркаваннямі, а толькі фактычным станам рэчаў.

- Вітаўт Кіпель з'яўляецца дасканалым прамоўцам, які патрапіць гаварыць без пісаных тэкстаў, пазбягаючы пры гэтым так характэрнага для многіх аратараў пустазвонства і дэмагогіі.

- Вітаўт Кіпель трапна і рэалістычна характарызаваў і ацэньваў сітуацыю беларусаў у Польшчы, хаця здавалася б, не ведае ўсіх фактаў і фактараў нашай рэчаіснасці.

- Вітаўт Кіпель з'яўляецца дасканалым партнёрам у застоллі, цікавым размоўцам на свабодныя жыццёвыя тэмы.

Думаецца мне, што Вітаўт Кіпель з'яўляецца вядучым дзеячам сярод беларускай эміграцыі, і тое, што знайшоўся сярод членаў БГКТ, трэба трактаваць як прыемную і карысную праяву нашага супрацоўніцтва з беларусамі, раскіданымі па шырокім свеце.

Хацелася б пажадаць, каб і іншыя беларускія эміграцыйныя дзеячы, якіх мы трактавалі і трактуем як братоў, пабывалі сярод беларусаў на Беласточчыне і пакінулі свой след у нашай беларускай рэчаіснасці.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**




Астроне, мілы! Ты ж заўжды мне на сны правільныя адказы даваў. Змілуйся, адкажы і на гэты раз! Але прыснілася, кажу табе, такое, што і ў галаве не месціцца. А было гэта так.

Быццам двое мужчын вядзе мяне па нейкім калідоры ў турму, а навокал на лаўках сядзяць людзі, якія чакаюць, калі іх завядуць у турэмную камеру.

Дайшлі мы да адных дзвярэй. Тады іх адчыняюць і гавораць мне: „Ідзі туды!". Калі я ўвайшоў у камеру, убачыў шмат мужчын з татуіроўкай на руках, плячах і грудзях. Адзін з іх падыходзіць да мяне і гаворыць: „Ідзі туды, там у канцы стаіць вольны ложак!"

Я падыходжу, а там белая пасцель, як дома. Было ўсюды многа мужчын. Раптам бачу, у кутку двое мужчын „рубаецца". Адзін лезе да другога. Нейкі чалавек мне кажа: „Ты на іх не глядзі, гэта ж педэрасты!" І тут я прачнуўся. Божачкі, што ж гэты сон можа абазначаць?

**А.Г.**

Даражэнькі А.Г.! Што ж можна табе адказаць на твой сон?! Ён у цябе - як абразок з крымінальнага фільма. Мо фільмаў якіх наглядзеўся ты?

Але наогул дык турма, хоць гэта і дзіўна, абазначае добрае: дастатак і мір. Ды толькі твая турма была занадта разнегліжаваная, і можа з гэтым дастаткам таксама будзе не ва ўсім так, як бы хацелася табе.

**АСТРОН**

## НЕШЧАСЛІВАЕ ЗДАРЭННЕ

Усё здарылася вельмі хутка. Хутчэй, чым мог хто спадзявацца. Мажэна сказала Мірку, што парывае іх знаёмства. У яе зараз новы хлопец, які больш ёй падабаецца, чым Мірак. Міраслаў не сказаў нічога, хаця ў нутры ўсё пахаладзела. Аб сваёй сардэчнай няўдачы сказаў маці. Мама абыякава аднеслася да гэтай справы.

- Мірак, - сказала яна, - табе толькі 15 гадоў. У цябе яшчэ не адна Мажэна будзе. Да жаніцьбы многа дзяўчат зменіш.

Хлопец маўчаў. Пайшоў у свой пакойчык і плакаў. Ён хацеў закахацца ў адной дзяўчыне на ўсё жыццё. Быць з ёю разам аж да смерці, а тут такі правал.

Узяўся пакаваць рукзак. Палажыў туды адзенне і свае любімыя кніжкі. Пайшоў чакаць цягніка. Калі ехаў пасажырскі, кінуўся на рэйкі.

На пахаванне прыйшлі ўсе сябры і Мажэна. Дзяўчына не магла сабе дараваць, што праз яе лёгкадумнасць Мірак не жыве.

**АЎРОРА**

# Зорка

## Старонка для дзяцей

Генадзь Бураўкін

### КАЛЫХАНКА

Доўгі дзень,
Цёплы дзень
Адплывае за аблокі.
Сіні цень,
Адпаўзае ў кут далёкі.
Збеглі зайкі ўсе ў лясы.
Змоўклі птушак галасы.
І буслы ў гняздо схавалі
Свае доўгія насы.

Баю-бай, баю-бай,
Вачаняты закрывай.
Баю-бай, баю-бай,
Вачаняты закрывай.

Пакрысе
На расе
Патухаюць зоркі-сплюшкі.
Гулі ўсе,
Казкі ўсе
Пахаваны пад падушкі.
Спяць і мышкі і стрыжы.
Спяць машыны ў гаражы.
Ты таксама
Каля мамы
Ціха-ціхенька ляжы.



САЛОДКІ СОН *Фота М. Лукшы*

*********************************************************************

Адна прыгожая дзяўчына мела вельмі ліхога бацьку. Не вытрымала яна здзеку дома, апранула свой старэнькі кажушок і пайшла ў свет шукаць якой службы.

А непадалёку жыла ўдава-каралева, якая мела адзінага сына. Да іх вось у каралеўскі замак і пайшла служанкай на кухню дзяўчына.

Настала свята. Беднай дзяўчыне захацелася схадзіць у горад. Але пані, што была старшай над усімі служанкамі ў замку, вынесла гарнец маку, змяшанага з попелам, і злосна сказала:

- Вось табе работа. Перабярэш, тады ідзі куды хочаш.

Села дзяўчына на ганку і горка заплакала. Прыляцелі да яе дзве белыя галубкі і кажуць:

- Не плач, любая дзяўчына. Прыляж на мураве ды адпачні сабе. Мы хутка мак перабяром і пабудзім цябе. Яшчэ паспееш у горад.

Змарыў дзяўчыну сон. А калі галубкі разбудзілі яе, увесь мак быў перабраны. Занесла дзяўчына мак на кухню, надзела кажушок і пабегла ў горад.

Бяжыць яна па дарозе, аж даганяе яе на кані малады каралевіч. Гарцаваў ён, гарцаваў і выпусціў з рук бізун. Дзяўчына падняла бізун, падала яго каралевічу. А той, замест таго, каб падзякаваць, размахнуўся і ўдарыў яе бізуном па кажуху.

Заплакала дзяўчына і пайшла ў лес. Там, у гушчары, стаяў вялікі дуб, які мог даць усё, што дзяўчына пажадае. Стукнула яна рукой па дрэве і сказала:

- Расхініся, расчыніся, залаты дуб! Дай мне багатую вопратку, брычку і прыслугу.

Адразу з'явілася на дзяўчыне залатое ўбранне, пад'ехала багатая карэта з вялікай світай. Села яна ў карэту і пакаціла.

Прыехала дзяўчына ў горад - усе толькі на яе і глядзяць. Быў тут і малады каралевіч. Здзівіўся ён: адкуль такая прыгожая і багатая паненка, і паслаў свайго маршалка даведацца.



## Старэнькі кажушок

- З-пад бізуна! - адказала дзяўчына.

Каралевіч ніколі не чуў горада ці вёскі з такой назвай.

Мінула некалькі тыдняў, зноў надышло свята, і бедная служанка пачала прасіцца ў пані, каб тая дазволіла ёй схадзіць у горад. Пані ў адказ вынесла два гарцы маку, змешанага з попелам, і загадала перабраць.

Села дзяўчына на ганку і горка заплакала. Раптам прылятаюць дзве белыя галубкі.

- Не плач, даражэнькая! - ціха сказала адна. - Прыляж на мураве і адпачні сабе, мы хутка мак перабяром і цябе пабудзім...

Занесла дзяўчына на кухню перабраны мак і кінулася бегчы ў лес. Па дарозе спаткала яна каралевіча, які шукаў згублены пярсцёнак. Дзяўчына знайшла залаты пярсцёнак і аддала каралевічу. А ён узяў пярсцёнак і грэбліва адвярнуўся ад дзяўчыны, баючыся запэцкаць сваё багатае ўбранне.

Пайшла дзяўчына ў лес, дзе ў гушчары стаяў вялікі дуб. Стукнула яго рукой і сказала:

- Расхініся, расчыніся, мой залаты дуб! Дай мне адзежу, карэту і дворню.

Адразу з'явілася на ёй багатая вопратка, пад'ехала залатая карэта, акружыла дзяўчыну світа ў ліўрэях.

Як толькі прыехала дзяўчына ў горад, убачыў яе малады каралевіч. Зноў пасылае ён свайго маршалка даведацца, адкуль такая паненка.

- З-пад залатога пярсцёнка! - адказала бедная служанка.

Увечары вярнулася дзяўчына ў лес, дуб схаваў карэту і слуг, а яна надзела старэнькі кажушок і пайшла ў замак.

Мінула некалькі тыдняў, надышло свята. Зноў просіцца служанка ў горад. Цяпер ужо ніхто не даў ёй ніякай работы, і дзяўчына пабегла адразу ў лес і сказала:

- Расхініся, расчыніся, мой залаты дуб! Дай мне самае багатае адзенне, самую прыгожую карэту, самую лепшую світу прыслужнікаў.

( Працяг на стар. 10 )

## Для самых маленькіх

Віктар Гардзей

### ЯК МУРЛЫКУ АШУКАЛІ

Казка

Кажуць, у сяле адным
Жыў мурлыка - кот Максім.
Па каморы ён хадзіў,
Мышку там сабе злавіў.
Снедаць сеў,
Ды, як на грэх,
Разабраў піскуху смех:
- У цябе ж пад носам бруд
Ды грязі на лапах пуд!
Вельмі лёгка захварэць,
Трэба, коцік, разумець:
Каб не мець якой бяды,
Лепш памыйся да яды.

Кот здзівіўся:
- Ты глядзі!
Я не знаў...
Што ж, пасядзі...

Лапкі чыста ён памыў,
Ну а мышкі - след прастыў!
Засмуціўся кот Максім:
„Гэта ж дурань я зусім..."

Мыцца часта ён пачаў,
Каб хто зноў не ашукаў.

Авяр'ян Дзеружынскі

### МЫШКА -ГАСПАДЫНЬКА

Палявая мышка
У норку
Нацягала
Ежы горку:
Каранькоў, лісткоў,
Зярнятак
Для маленькіх
Мышанятак.

Норку мохам
Ацяпліла,
Уваходы ўсе
Закрыла,
Каб у зімні дзень
Мароз
Дзеткам холад
Не занёс.

Гаспадынька-мышка
Рада:
Цеплыня тут
І парадак.
Дзеткі сытыя
Паснулі
Разам
З мышкаю-матуляй.



## *Вершы аб роднай мове*

### АЛЕСЬ ЕМЕЛЬЯНАЎ

Мова,
Табе я ніколі не здрадзіў,
Прад табою душой не крывіў.
Мова -
Сонца маё і радасць,
Ты - чырвоны агонь крыві.

Ты прайшла праз ліхія завеі,
Праз залевы ганенняў, зняваг.
Не пастухай,
Не казачнай феяй,
А паўстанкай
З касою ў руках.

Твой душою я ўвесь,
Маці-мова,
Без цябе мне жыцця нестае.
Дай руку мне,
Пяшчотнае слова
Беларускае мовы мае.

### ЛЮБА ТАРАСЮК

І працаўніца, і чараўніца,
Мова-сялянка, мова паэтаў...
Дзякуй табе, што не ўмела забыцца
На долю песні прыветнай.

Спелішся ціхаю ласкаю
І несуцешнаю скрухаю.
Я цябе, мая ластаўка,
Не адрываюся - слухаю...
ы
Сілу сваю выпроствала
Ты з-пад чарноты вязкай.
Дыхае слова простае
Свежасцю праслаўянскай.

Сціплая, ды не кволая -
Гордаю быць умела.
Вечна балючым полымем
Хатынь твая палымнела...

Стала ты мне не страчаным
На рубяжы пакаленняў
І блаславеннем матчыным,
І Бацькаўшчыны сумленнем.



## СТАРЭНЬКІ КАЖУШОК

( Працяг са стар. 9 )

Прыбралася дзяўчына ў прыгожае адзенне, вышытае золатам і серабром, села ў карэту, якая аж зіхацела, і паехала ў горад. Каралевіч ужо даўно чакаў яе там. Ён хітрасцю задумаў даведацца, хто яна такая. Як толькі дзяўчына вылезла з карэты і разам са сваімі слугамі пайшла прагуляцца, каралевіч загадаў разліць вакол карэты смалу.

Дзяўчына прыйшла садзіцца ў карэту, ступіла маленькай ножкай у смалу і згубіла залатую туфельку. Вярнулася яна ў лес, дуб схаваў карэту і прыслужнікаў, а дзяўчына надзела старэнькі кажушок і пайшла ў замак.

Каралевіч, у рукі якога трапіла туфелька, усюды шукаў невядомую прыгажуню. Але ўсё дарэмна: ні на адну нагу туфелька не падыходзіла, ні ў кога не было такой маленькай ножкі.

Хадзіў ён аднойчы ў смутку і задуме каля замка. Раптам падляцела да яго пара белых галубоў.

- Не тужы, каралевіч! - сказалі галубкі. - Ведаем мы, пра што ты думаеш і каго шукаеш. Успомні, каго ты нядаўна на дарозе бізуном частаваў і хто табе пасля згублены залаты пярсцёнак падаў. Знойдзеш тады ножку на гэтую туфельку...

Каралевіч зараз жа загадаў, каб служанка ў старым кажушку прыйшла ў яго раскошныя пакоі.

Дарэмна дзяўчына плакала, дарэмна адмаўлялася ісці - прынеслі яе на руках. І тут усе ўбачылі, што пад старым кажушком на ёй багатае ўбранне, а на адной ножцы залатая туфелька. Каралевіч адразу пазнаў тую, што пакарыла яго сэрца.

Неўзабаве ў замку звінела музыка і песні. З бочак ліліся мёд і віно. Гэта спраўлялі вяселле каралевіча з беднай служанкай, якая насіла стары кажушок.

## ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

### РЭМЕЗ ЗВЫЧАЙНЫ

Рэмез - птушка сям'і сініцавых атрад вераб'інападобных. Жыве ў Еўразіі. На Беларусі рэдкі пералётны від.

Рэмез жыве ў зарасніках вярбы на берагах рэк, азёр і старыц, на заліўных забалочаных лугах з асобнымі дрэвамі каля вады. Месцы пражывання рэмеза змяняюцца пад уплывам гаспадарчай дзейнасці чалавека.

Рэмез корміцца насякомымі, павукамі, а таксама насеннем.

Даўжыня цела рэмеза - 11 см, маса 8-10 г. Апярэнне зверху ржава-рыжае, галавы і шыі белае, ілба і палос ад дзюбы да вуха чорнае. Плечавое пер'е і падхвосце - вохрыстыя. Горла і валляк бруднавата-белае, бруха вохрыстае, на грудзях і баках рыжаватыя стракацінкі. Дзюба прамая, тонкая, вострая.

Рэмез прылятае ў 2-ой палавіне красавіка. Гнёзды рэмезаў на адлегласці 100-500 метраў адно ад аднаго на вербах, радзей дубах, бярозах, вольхах на вышыні 2-4 метраў ад паверхні вады, звісаюць над ёй; гнёзды па-майстэрску звіты з лубу і пуху вербаў, збоку наведваюць невялікую рукавіцу з недавязаным вялікім пальцам, па вертыкалі яны авальныя. Рэмез мацуе гняздо да галінак лубам. У гняздзе ёсць 1-2 адтуліны - ляткі. Побач з асноўным гняздом птушка будуе дадатковае, у якім адпачывае, начуе; яно, як правіла, няскончанае, нагадвае прыгожую „калыску".

Яйкі - у кладцы 5-6 белых, бліскучых - перакладзены ў гняздзе раслінным пухам і таму не разбіваюцца пры хістанні галін. Рэмез будуе гнёзды і адкладвае яйкі да канца мая. Маладняк рэмезаў лётны ў ліпені. У паслягняздоўны час рэмез звычайны трымаецца сем'ямі, вандруе. Адлятаюць рэмезы ў канцы жніўня-верасні.



Беларускія гульні

### ЛЯЦЯЦЬ ГУСІ

І дома, і ў садку дзяцей можна лёгка захапіць гэтай цікавай гульнёю. Усе ставяць указальныя пальцы на стол, у адно месца. Тады старшы кажа:

- Гусі ляцяць! - і паднімае руку ўверх, паказваючы, як ляцяць гусі.

Дзеці адказваюць: „Ляцяць!" - і таксама паднімаюць рукі.

- Качкі ляцяць!

- Ляцяць!

- Вераб'і ляцяць!

- Ляцяць!

- Мухі ляцяць!

- Ляцяць.

- Акуні ляцяць!

Захапіўшыся, дзеці часта адказваюць:

- Ляцяць! - і таксама паднімаюць рукі.

Тады старшы нямоцна б'е іх па руках і крычыць:
- Не ляцяць! Не ляцяць!
Потым гульня пачынаецца спачатку:

- Гусі ляцяць! Вароны ляцяць! Сарокі ляцяць! Каровы ляцяць!

Але навучаныя вопытам, дзеці ўжо не паднімаюць на карову рук і маўчаць. Старшы тым часам зноўку вядзе сваё:

- Гусі ляцяць! Лебедзі ляцяць! Жаваранкі ляцяць! Дубы ляцяць! і г.д.

Гэты своеасаблівы ўрок прыродазнаўства канчаецца тады, калі ўвага малых стамляецца і яны пачынаюць абы-калі паднімаць рукі.




**Адразу два**

Бабуля пачаставала Колю піражком. Хлопчык падыйшоў да люстэрка і пачаў есці. Бабуля пытаецца:
- Чаму ты ясі перад люстэркам?
- Хачу з'есці адразу два піражкі.

**Пчала**

- Пчала - карыснае насякомае, ці шкоднае?
- Шкоднае, яна кусаецца!

**Марскія істоты**

- Дзеці, як называюцца істоты, якія жывуць у моры і на сушы?
- Матросы!



АДГАДАНКА

*Знайдзі 10 адрозненняў на гэтых малюнках.*

# ДАР СЭРЦА

Праблема дзяцей, пацярпеўшых ад чарнобыльскай аварыі, самая балючая на Беларусі. У забруджанай зоне далей пражывае амаль 250 тысяч дзяцей. Спецыялісты прызнаюць, што дзеці і па-за гэтай зонай таксама ядуць забруджаныя харчы і ходзяць у радыеактыўнай вопратцы. Беларускаму ўраду не пад сілу вырашыць гэтую праблему. Апазіцыйныя газеты абвінавачваюць урад у пасіўнасці і адсутнасці добрай волі. Гаворыцца таксама, што на вачах усяго свету праводзіцца эксперымент: доследы уплыву радыяцыі на жыццё чалавека. Няма тады апраўдання для пасіўнасці беларускага ўрада і сусветнай супольнасці.

Чарнобыльская трагедыя неабыякавая беларусам у замежжы. З мінулага года беларускія сем'і на Беласточчыне прымаюць на адпачынак дзяцей з Хойніцкага раёна. Беларуская эміграцыя збірае грошы на адпачынак і лячэнне дзяцей, пастаўляе лякарствы і медыцынскую апаратуру.

Прыхаджане праваслаўнай парафіі св. Юрыя ў Чыкага сабралі звыш 2000 долараў з мэтай арганізаваць летнікі дзецям з Беларусі на Беласточчыне (менавіта на Беласточчыне, бо кошт падарожжа ў Амерыку вялікі, і з адпачынку скарыстала б нямнога дзяцей). Арганізацыяй летніка заняліся святары прыхода Усіх Святых у Беластоку. Сёлета чарнобыльскімі дзяцьмі апякуюцца: а. Аляксандр Хіліманюк і а. Іван Федарук. Гэта ім чыкагаўскія прыхаджане перадалі сабраныя грошы. Дзеці і арганізатары летніка выказваюць шчырую падзяку за гэты дар сэрца. А вось пералік ахвярадаўцаў:

| | |
|---|---|
| 1. Беларуская Праваслаўная Царква ў Чыкага | 1300 дол. |
| 2. Беларуска-Амерыканская Нацыянальная Рада ў Чыкага | 300 дол. |
| 3. Косця Загонак | 50 дол. |
| 4. Аляксандр Шышко | 50 дол. |
| 5. Фёдар Якіменка | 40 дол. |
| 6. Ала і Валодзя Яканюкі | 20 дол. |
| 7. Міхась Каленік | 20 дол. |
| 8. Людміла і Пятро Нягоды | 20 дол. |
| 9. Валодзя Варачаеў | 20 дол. |
| 10. Косця Пуп | 20 дол. |
| 11. а. Міраслаў Кулік | 10 дол. |
| 12. Валя Краўчук | 10 дол. |
| 13. Мікалай Дэмяновіч | 10 дол. |
| 14. Віктар Хурса | 10 дол. |
| 15. Ніна Орда | 10 дол. |
| 16. Тодар Сахарчук | 10 дол. |
| 17. Даніла Швефель | 10 дол. |
| 18. Мікалай Валатоўскі | 10 дол. |
| 19. Мікалай Латушкін | 10 дол. |
| 20. Пецька Шаршуновіч | 10 дол. |
| 21. Іван і Ніна Міцько | 10 дол. |
| 22. Аляксандр Бонда | 5 дол. |
| 23. Андрэй Іванюк | 5 дол. |
| 24. Валодзя Мэндрыцкі | 5 дол. |
| 25. Сяргей Сахарчук | 5дол. |
| 26. Аляксандр Сутынец | 5 дол. |
| 27. Валя Талочка | 5 дол. |
| 28. Анатоль Чэмель | 5 дол. |
| 29. Люба і Мікалай Маслоўскія | 5 дол. |
| 30. Соня Пуп | 6 дол. |
| 31. Валя і Андрэй Карнеевы | 5 дол. |
| 32. Валянціна Кішкель | 5 дол. |
| 33. Валодзя Шуст | 2 дол. |
| 34. Параска Шостак | 2 дол. |
| 35. Марыя Каленік | 20 дол. |
| 36. Яўген Макарэвіч | 30 дол. |

*Грошы збіраў Яўген Макарэвіч.*

**АНТОСЬ МІРАНОВІЧ**

# ВЕСТКІ З ГАЙНАЎКІ

Гайнаўка пачала хутка прыватызавацца. Цяпер штораз больш паўстае прыватных крамаў. Некаторыя прадаўцы самі будуюць сабе крамы, а некаторыя купляюць будынкі ў дзяржавы. Напрыклад, („Далікатэсы",„Фота-оптыка" (там зараз спажывецкая крама) і іншыя. Адкрываюцца новыя піўныя. Ужо пару месяцаў піўная „Капітоль" знаходзіцца ў памяшканні былога гарадскога туалета. Людзі называюць яе піўнушкай у ... срачы.

Дзе цяпер гарадская прыбіральня - невядома.

Новая спажывецкая крама ў прыватным доме знаходзіцца на вуліцы 11 Лістапада. Каля алеі, якой ідзецца ад пераезду да чыгуначнага вакзала, зноў будуюцца новыя прыватныя магазіны. На прыпынку пры вуліцы Стэфана Баторыя гандаль ідзе поўным ходам. Тут шмат золата, вопраткі, харчовых прадуктаў і мноства савецкай гарэлкі.

На месцы, дзе стаяў помнік-танк, пачалі ставіць новы помнік-ахвярам гітлераўскага і сталінскага рэжымаў.

Тым, хто хоча гандляваць на вуліцы, вызначана месца на пасёлку Рэя. За гандлёвую дзейнасць трэба плаціць падаткі. Найменшы падатак ад продажу тавару з рук - 20 тысяч, а найбольшы - з 10-тоннага самахода - 50 тысяч.

АЎРОРА





## Кухонныя пярады

### КЛЁЦКІ З СЫРАМ ПА-РУМЫНСКУ

На 2 шклянкі стоўчанай варанай бульбы трэба ўзяць 2 яйкі, паўшклянкі мукі, 2 лыжкі сцертага на тарцы жоўтага сыру, перац, масла, соль. Усе прадукты перамяшаць. Клёцкі палажыць у пасолены кіпецень у вялікай каструлі ці глыбокай патэльні і падаграваць (не варыць) мінут 15, пасля чаго адцадзіць на сіце, пакласці іх у вогнетрывалы посуд, паліць маслам і пасыпаць сырам. Запякаць у духоўцы 10 мінут. Падаваць з памідорным соусам.

### АЛАДКІ У ТВАРОЖНЫМ СОУСЕ ПА-ЛІТОЎСКУ

На 8 бульбін трэба ўзяць 3 лыжкі мукі, тлушч, 1 яйка, соль; на соус: 40 дэкаў тварагу, 1 шклянку кіслай смятаны, 10 дэкаў нарэзанага бачку ці саланіны, 1 цыбуліну, кмен, соль, пасечаную зеляніну.

Звараную ў мундзірах бульбу абабраць, змалоць, дадаць соль, збітае яйка, муку і ўсё перамяшаць. Фармаваць круглыя аладкі, мачаць іх у муку, палажыць на змазаную тлушчам патэльню або бляшку і спячы ў духоўцы. Бачок з цыбуляй падсмажыць, дадаць паўшклянкі смятаны і выліць гэта на аладкі, якія пякуцца. Патрымаць іх яшчэ ў духоўцы, пакуль аладкі не ўбяруць у сябе амаль цалкам смятану з бачком.

Рэшту прадуктаў для соусу перамяшаць і падаваць аладкі з соусам.

### ЦЭПЭЛІНЫ ПА-ЛІТОЎСКУ

На 2 кг бульбы трэба ўзяць 1 яйка, 4 лыжкі кіслай смятаны, соль, муку, 20 дэкаў капчонага бачку, 2 цыбуліны, цертую булку.

Палавіну бульбы зварыць і стаўчы, пакуль бульба яшчэ гарачая. Рэшту бульбы сцерці на тарцы і выціснуць. Сцертую бульбу перамяшаць са зваранай, дадаць соль, смятану або масла і яйка. Бачок дробна нарэзаць і падсмажыць разам з пасечанай цыбуляй, пасля дадаць сцертую булку і перамяшаць. Цеста падзяліць на порцыі. Кожную порцыю напоўніць лыжачкай бачку з цыбуляй, цеста сціснуць, рабіць клёцкі ў форме цыгары і варыць у пасоленай вадзе. Калі выплывуць наверх, пакінуць іх пад крышкай у гарачай вадзе яшчэ мінут на 5-10, пасля чаго выняць.

Падаваць з растопленым маслам, грыбным або белым соусам, салатай з брусніцы.

Замест бачку можна падрыхтаваць фарш з меленага мяса, або пасечаных грыбоў, падсмажаных з цыбуляй або з салонага тварагу з зялёнай цыбуляй і муштардай.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ЖУКІ ПАД ЛУПАЙ

Каля 50-ці энтамолагаў з усёй Польшчы з'ехалася ў канцы чэрвеня г.г. у Белавежу, каб прыняць удзел у сімпозіуме прысвечаным жукам, як рэліктам натуральных асяроддзяў. Дыскусія вялася галоўным чынам над дакладам д-ра Баляслава Буракоўскага на тэму Белавежскай пушчы - апоры рэліктавых жукаў, і паведамленнем праф. Ежы Паўлоўскага, які пазнаёміў вучоных з ходам працы над стварэннем польскай чырвонай кнігі відаў насякомых, што знаходзяцца пад пагрозай. У перапынках паміж сесіямі энтамолагі наведалі Белавежскі нацыянальны парк.

**ПЁТР БАЙКО**

## ЗАПРАШАЕМ НАВЕДАЦЬ

Аб самародным таленце беларускай мастачкі Тамары Тарасевіч „Ніва" нядаўна пісала на сваіх старонках.

10 жніўня гэтага года ў 12 гадзін у Музеі сельскай гаспадаркі (Muzeum Rolnictwa im. K. Kluka) у Цеханоўцы адкрываецца вялікая выстаўка яе карцін.

**(я.ч.)**

# АНЕКДОТ З БАРАДОЙ І БЕЗ

### ПАСЛЯ КУРОРТА

- Пяць гадоў назад мы з мужам упершыню адпачывалі асобна.
- Ну і як? Мужу спадабалася?
- Не ведаю: ён яшчэ не вярнуўся.

### ШТО БОЛЬШ СУР'ЁЗНА?

- Тры месяцы ты не можаш рашыць, якія купіць шпалеры для рамонту кватэры, а мне прапанаваў руку і сэрца праз тры дні пасля знаёмства!
- Зразумей, Анюта, рамонт кватэры - справа сур'ёзная...

### ЛОГІКА

Два знаёмцы сустракаюцца ў аэрапорце.
- Іван, куды?
- У Сочы, у вясельнае падарожжа.
- А дзе ж твая жонка?
- А ёй ужо даводзілася бываць у Сочы...

### НЕ ХОПІЦЬ ГРОШАЙ

- Не ведаю, які падарунак купіць жонцы да дня нараджэння.
- Спытайся ў яе.
- Яшчэ што выдумай! У мяне няма столькі грошай...

### НІЧОГА СТРАШНАГА

- Шэф, не палохайцеся, вялікая непрыемнасць! Ваш намеснік збег з вашай жонкай!
- Нічога страшнага, я ўсё роўна збіраўся яго звольніць.

*„Вожык"*



*- Лічу, што трэба паставіць гэтую статую ў другім месцы.*

# НІЎКА



*-Не! Ужо трэці раз паўтараю, што вы памыліліся!*

# ФАТАЛЬНАЕ КАХАННЕ

(гумарэска)

Я глянуў у акно. Яна павольна ішла вуліцай. Крочыла пругка. Стройная. Сімпатычная. Высокая. На яе ўсе мужчыны заглядаюцца. Прыгожа, але сціпла апранутая. Вусны ў памаду не вымазаны. Ка - ра - ле - ва.

Зайшла ў пад'езд. Грукнулі дзверы. Маё сэрца ўздрыганулася. Зайшлося адчайным стукам, быццам спалоханы верабей у клетцы.

Пастаяў, памаўчаў.

Набраўся смеласці. Рашучым крокам пайшоў да яе кватэры. Націснуў кнопку званка. Шчоўкнуў замок.

Выйшла нібы лебедзь выплыў з-за вострава. У квяцістым халаце, зашпіленым на адзін гузік. Румяная. На твары ўсмешка. У мяне перасохла ў горле. Пачуццё такое, быццам утапіўся ў глыбокім вырaзе яе халата...

- Вы штосьці хацелі? - запытала меладычным голасам. - Магчыма, патрэбны цукар да гарбаты? Але дзе ж зараз яго ўзяць...

- Нічога мне, акрамя вас, не трэба, - лепячу спалоханым голасам, молячы Бога, каб яна не пайшла, каб выслухала крык майго сэрца. - Давайце знаёміцца. Я - Павел! Ваш новы сусед.

- А я - Ларыса. Даўно вас заўважыла. Толькі вы нейкі старарэжымны, баязлівы.

- Вельмі рады. Вы мне, Ларыса, прабачце, але дазвольце ўсё сказаць, як на споведзі.

- Цішэй, - папрасіла. - Нас могуць пачуць. У сцен ёсць вушы.

- Я павінен вам сказаць, - шапчу непаслухмянымі вуснамі, - што я не сплю начамі. Тройчы падаў з ложка. Куру па тры пачкі цыгарэт. Чытаю. А сон не ідзе.

- Няшчасны вы мой, - абхапіла маю галаву рукамі і прытуліла яе да грудзей.

У твар дыхнула гарачынёй, як ад мартэнаўскай печы.

- Днём таксама дрэнна, - спавядаюся. - На рабоце адны непрыемнасці. Учора зноў заснуў за сталом. У чайнік укінуў кавалак крэйды. Думаў, што цукар. Яшчэ чаго добрага, пад машыну траплю.

- Не вы першы, - смачна пазяхнула Ларыса. - Сем суседзяў з'ехалі ад нас за апошніх шэсць гадоў. Фатальнае каханне.

- Калі так пойдзе і далей, то я таксама...

- А як жа жонка, дзеці? - задумалася.

- Жонка таксама не спіць. І дзеці плачуць.

- Які выхад?

- Вельмі просты! - крычу. - Перастаньце, Ларыса, іграць ноччу на піяніна. А то няма маіх сіл яго слухаць. Не вытрымаю, выкіну на вуліцу і яго і вас!

**Віктар Семяняка**

*Пераклаў на беларускую мову В. Бабей*

### ВІРАВАНКА

*/сямілітарная/*

Першую літару слова трэба ўпісаць у клетачку з лікам, астатнія - вакол гэтай клетачкі згодна з рухам гадзіннікавых стрэлак. Як акрэсленні падаюцца тры словы, якія асацыіруюцца з адгадваемым словам.

1/ трава, пара, каса; 2/ гімнастыка, арганізм, практыкаванні; 3/ лад, месца, чарга; 4/ невядомае, адказ, што?; 5/ віхор, Амерыка, трагедыя; 6/ домік, Расія, казка; 7/ смех, расказ, здарэнне; 8/ цвік, стукат, прылада; 9/ бязладдзе, тэатр, будыніна; 10/ корм, рыба, прыцягненне; 11/ танец, дзеці, свята; 12/ асвятленне, тлушч, прымітыўнасць; 13/ золата, чалавек, мноства; 14/ чалавек, космас, палёт; 15/ аркестр, рукі, суладдзе; 16/ ружжо, чалавек, цэль; 17/ гармата, верх, стральба; 18/ вар'ят, хвароба, звер; 19/ лекар, невуцтва, конь; 20/ музыка, чатыры, група.

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку, змешчаную ў н-ры 26:** сяржант, птушаня, парашок, трактар, эратызм, небарак, велікан, кавалер, паварот, патомак, планета, кілават, палатно, стадыён, Фларыда.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Аляксандр Белы з Мінска і Ірынеі Красоўскі з Бельска-Падляшскага.




### У ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЕ

Камісія прыехала
У зону пад абед,
Глядзіць - насустрач тэпае
Зусім старэнькі дзед.
- Ты, пэўна, заблудзіўся?
Тут нельга, радыяцыя...
- Ох, дзіткі, тут родився,
Тут буду паміраты я.
Камісія пытаецца:
- І як жывеш, нябога?
- Повывэзлы людыну,
Повывэзлы скотыну,
А так собі й нічого.
- А хто ж там завіхаецца
Ля жытняй паласы?
Дзед сумна пасміхаецца:
- Та то ж беларусы.

УЛАДЗІМІР МАЦВЕЕНКА

****************************************



„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

*Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*
*Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.
2.Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.000 zł.
Cena prenumeraty miesięcznej:
- sierpień - 8.000 zł.
- wrzesień - 10. 000 zł.
Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.